**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 11 (779) 12 сакавіка 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut .by

# Вольнае Глыбокае



**Вясна, дакладна, прыйшла! Кветкі, усмешкі, сонейка! Што праўда, гэтая зіма запомніцца ўсім на доўгія дзесяцігоддзі як восень, што плаўна перайшла ў вясну.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## Шукаем сведкаў ДТЗ

**У вытворчасці Шаркоўшчынскага раённага аддзела Следчага камітэта знаходзіцца крымінальная справа №15123260011, узбуджаная 30.01.2015 па ч.4 арт.317 КК Рэспублікі Беларусь па факце ДТЗ, якое адбылося 30.12.2014 каля 18 гадзін 20 хвілін на вул.Леніна ў г.Глыбокае, насупраць дома №64.**

**Акалічнасці ДТЗ:** наезд аўтамабілем "Вольва S60" (седан шэра-зялёнага колеру) на двух пешаходаў, якія ішлі па левым тратуары з боку Глыбоцкага МКК, у кірунку цэнтра.

**Наступствы ДТЗ**: прычыненне цялесных пашкоджанняў пацярпелай.

Сведкаў ДТЗ прашу звяртацца ў Шаркоўшчынскі раённы аддзел Следчага камітэта па адрасе: г.п.Шаркоўшчына, вул. Чырвонаармейская 8-1/2, ці патэлефанаваць па нумары: 802154-4-24-48, 802154-4 15-79.

Загадзя ўдзячны за супрацоўніцтва, з павагай,

***А.Л.Табола,*** *ст.следчы СА Шаркоўшчынскага РАСК, маёр юстыцыі.*

## Дэкрэт аб стымуляванні занятасці неўзабаве прадставяць прэзідэнту

**У Беларусі дэкрэт аб стымуляванні занятасці грамадзян у найбліжэйшы час прадставяць кіраўніку дзяржавы. Пра гэта заявіла 8 сакавіка намеснік прэм'ер-міністра Наталля Качанава на тэлеканале "Беларусь 1". Паводле яе слоў, дакумент знаходзіцца ў стадыі завяршэння, дапрацоўваецца.**

Як адзначыла віцэ-прэм'ер, многія недаацэньваюць усё тое, што робіць дзяржава ў галіне сацыяльнай палітыкі. На яе думку, кожны грамадзянін павінен удзельнічаць у кампенсацыі выдаткаў, якія дзяржава накіроўвае на дадзеную сферу.

Наталля Качанава таксама паведаміла, што сёння ў Беларусі не разглядаецца пытанне аб павелічэнні пенсійнага ўзросту, і нагадала, што прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сказаў, што пераглядацца ў цяперашні час гэтае пытанне не будзе.

***Telegraf.***

### МНС інфармуе

**на 10.03.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 137;
Гібель людзей – 31, з іх 0 дзяцей;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 8;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон –172 млн. руб.

## Глыбоцкі раён

# Хлеб – усяму галава

■ Станіслаў Раманчук.

**На Віцебшчыне па сваім патэнцыяле, слаўнай гісторыі, па маляўнічых прыродных рэсурсах сярод іншых яўна выдзяляецца Глыбоцкі раён.**

Менавіта там некалькі гадоў назад адкрыўся ўнікальны сквер з помнікамі знакамітых землякоў, атрымалі прапіску міжнародны фестываль хрысціянскіх фільмаў і тэлепраграм, а таксама і "Вішнёвы фестываль". Глыбачане могуць ганарыцца і сваімі музеямі, спіс якіх днямі папоўніў яшчэ адзін "Дарога хлеба". Перад гэтым цікавая музейная экспазіцыя "СССР" некалькі месяцаў назад адкрылася ў адным з памяшканняў мясцовай СШ №2. Новы ж музей хлеба, стылізаваны пад сялянскую хату, запрацаваў у адміністрацыйным будынку хлебазавода ў райцэнтры, аднаго з філіялаў ААТ "Віцебскхлебпрам". Ідэя яго стварэння ўзнікла ў дырэктара прадпрыемства Алега Толкача, калі ён пабываў з мэтай знаёмства з працай калег у Латвіі, а ў адным з замкаў Латгальскага краю азнаёміўся там з прыватным музеем хлеба. Такую прапанову кіраўніка падтрымалі раённыя ўлады, да працы па зборы экспанатаў падключыўся працоўны калектыў. Значную дапамогу ў стварэнні экспазіцыі аказалі педагогі і вучні былой Верхнянскай базавай школы. Людзі старэйшага пакалення яшчэ памятаюць, як практычна паўсюдна ў вясковых хатах пяклі асноўны прадукт харчавання, як людзі самі выраблялі сыры, масла. Невыпадкова ў спіс нематэрыяльных каштоўнасцей Беларусі ўнеслі тэхналогію выпечкі ржанога бохана жыхаркі вёскі Дзеркаўшчына Сцепаніды Лупач. Новы музей хлеба ў Глыбокім не толькі расказвае пра 40-гадовы слаўны шлях хлебазавода, але і паказвае той няпросты працэс ад зярнятка на полі да выпечкі, раскрывае вялізнае значэнне хлеба ў жыцці людзей. У далейшым ля музея хлеба ў горадзе з'явіцца парк і архітэктурная экспазіцыя, прысвечаная знакамітым землякам, героям працы.

## Пастаўскі раён

# Растуць страты і даўгі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Парадокс айчыннай эканомікі ў тым, што пры станоўчай дынаміцы развіцця і росце прамысловай вытворчасці ў краіне адначасова прыбаўляецца колькасць праблемных прадпрыемстваў, гаспадарак і арганізацый.**

У падобнай сітуацыі апынуўся і буйны Пастаўскі раён, дзе летась упершыню спрацавалі са стратамі ў памеры 13,2 млрд. рублёў за апошнія 20 гадоў. Пацягнула на дно рэгіён найперш сельская гаспадарка з "мінусам" амаль 29 млрд., хоць штогод на падтрымку АПК выдзяляліся велізарныя сродкі. Калі ў прамысловасці са стратамі працуюць з-за адсутнасці заказаў завод "Беліт", завод ЖБВ і ДАК у гарпасёлку Варапаева, то ў сельскай гаспадарцы на мяжы выжывання балансуюць ужо 8 сельгаспрадпрыемстваў. Летась больш чым у 2 разы выраслі іх даўгі за спажытыя энергарэсурсы і дасягнулі 14,3 млрд. рублёў. З-за пануючай на месцах безгаспадарчасці з месяца ў месяц не паступаюць падаткі ў бюджэт, адлічэнні ў пенсійны фонд. У дадатак да ўсіх бед у гаротных гаспадарках стала праблемай у тэрмін атрымаць заработную плату. У пачатку сакавіка такія даўгі перад вяскоўцамі перавысілі 1,2 млрд. рублёў. Пры гэтым, як і ў іншых раёнах, у лік зарплаты сталі залічвацца натураплатай праз магазіны. Паправіць складанае фінансавае становішча будзе няпроста, бо толькі 2 з мясцовых 15 гаспадарак не дапусцілі зімой зніжэння прадуктыўнасці ферм, з-за нізкай таварнасці малака недаатрымалі яшчэ 6,8 млрд. рублёў. І такое становішча існуе ўжо працяглы час, што асабліва хвалюе напярэдадні веснавой сяўбы.

## Верхнядзвінскі раён

# Прыжыліся на волі

■ Кастусь Александровіч

**У любую пару года прыцягальныя для чалавека лясныя масівы, асабліва калі яны прадстаўлены змешанымі дрэвамі, перасякаюцца ляснымі азёрамі і рэкамі.**

На мяжы ж Верхнядзвінскага раёна з суседнім Расонскім у напрамку Пскоўскай вобласці такія гушчары лесу амаль запаведныя, не кранутыя цывілізацыяй, а па разнастайнасці ландшафтаў, фаўны і флоры дадуць фору і Белавежскай пушчы з Бярэзінскім запаведнікам. Менавіта ў гэтай мясцовасці напрыканцы студзеня з паляўнічай гаспадаркі "Чырвоны Бор" з яе вальераў выпусцілі на волю статкі з паўсотні зуброў і ста аленяў. Жывёлы за кароткі тэрмін удала прыжыліся на новым месцы жыхарства, у чым неўзабаве пераканалася група фотамайстроў са сталіцы і вядомы фотамастак дзікай прыроды, дырэктар выдавецтва "Рыфтур" Сяргей Плыткевіч. У гэтай мясцовасці людзей рэдка можна дзе сустрэць, а вось дзікіх жывёлін наадварот, бо тут пражываюць таксама да паўтысячы ласёў, да 350 аленяў, ад 4 да 6 мядзведзяў, а яшчэ рысі, барсукі, бабры, шмат цецерукоў. Неверагодна, але дзякуючы добраму догляду за год у няволі нарадзілася нават 11 малых зубранят. З іншага боку мясцовыя паляўнічыя толькі ў студзені знішчылі яшчэ 15 ваўкоў, а драпежнікі болей не будуць прадстаўляць небяспеку лясным жыхарам. За жывёлінамі ў лясах раёна выдатны догляд, для іх вырошчваюць кармы і зерне на 1500 гектарах пасеваў. У розных мясцінах стварылі каля 30 розных падкормачных пляцовак і аднымі з першых у Беларусі – больш тысячы кароткіх пнёў - "саланцоў" з соллю для розных жывёл з мікрадабаўкамі. У выніку фатографы хутка зрабілі сваю працу, а вясной для іх будзе яшчэ большае раздолле на ўлонні жывой прыроды.

# Аб самым надзёным

## НА ФОНЕ КАМПАНІІ СУПРАЦЬ ДАРМАЕДАЎ УСЁ БОЛЕЙ СУАЙЧЫННІКАЎ СУТЫКАЮЦЦА З ПРАБЛЕМАМІ НА ВЫТВОРЧАСЦІ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Хутчэй усяго, з надыходам вясны з гэтай сферы малога бізнэса яшчэ пойдуць некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Пакупніцкая здольнасць беларусаў апошнім часам знізілася, прадаць рэшткі закупленых тавараў ім так і не ўдалося, а калі дзейнічаць згодна з патрабаваннямі тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза, то малыя партыі становяцца занадта дарагімі.**

Даволі камфортная зіма передала свае паўнамоцтвы ў Беларусі каляндарнай вясне. Але з надыходам больш цёплага надвор'я стала відавочна ўсім, што гэты год чакаецца і ў далейшым вельмі няпростым і нават складаным. Да таго ж у пачатку сакавіка на вельмі многіх рынках краіны і ў гандлёвых цэнтрах стала нязвыкла пуста: многія прадпрымальнікі не выйшлі на працу, пайшлі ў водпускі, апасаючыся, што іх могуць ашрафаваць альбо канфіскаваць прывезенае ў асноўным з Расіі адзенне, абутак і іншыя тавары лёгкай прамысловасці без суправаджальных дакументаў.

Між іншым, перад гэтым па Беларусі яшчэ ў студзені каля 7 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў не сталі адцягваць такі крок да апошняга дня і спынілі сваю працу. Хутчэй усяго, з надыходам вясны з гэтай сферы малога бізнэса яшчэ пойдуць некалькі дзясяткаў тысяч чалавек. Пакупніцкая здольнасць беларусаў апошнім часам знізілася, прадаць рэшткі закупленых тавараў ім так і не ўдалося, а калі дзейнічаць згодна з патрабаваннямі тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза, то малыя партыі становяцца занадта дарагімі. У выніку прадказальны далейшы рост незанятасці насельніцтва, бо і на афіцыйным узроўні прызналі, што беларуская эканоміка сёлета не расце і адчувальна ўпалі даходы людзей ( у студзені 70 % вытворцаў плацілі ўжо меней 5 млн. рублёў).

Дарэчы, такая тэндэнцыя назіралася і летась, у 2014 годзе ўпалі паўсюдна рэальныя грашовыя даходы беларусаў, за выключэннем толькі Мінска (там быў рост на 2,3 %). І яшчэ нязначны рост узроўню жыцця (на 0,3 %) быў зафіксаваны ў сталічнай вобласці, дзе сярэднямесячныя даходы на чалавека наблізіліся да 4,4 млн. рублёў. Старт года аказаўся няпростым для айчыннай эканомікі, праўда, сітуацыя на фінансавым і валютным рынку стабілізавалася, а Нацбанк Беларусі знізіў на 10 % аб'ёмы абавязковай прадажы валютнай выручкі для экспарцёраў. Аднак услед за Расіяй сусветнае агентства Moody's паставіла на перагляд рэйтынг Беларусі і 6 вядучых айчынных банкаў у бок паніжэння.

З расійскіх прастораў чамусьці да нас прыходзяць пераважна нявесёлыя весткі. Вось і Антыкрызісны фонд ЕўрАзЭС перанёс на май 2015 года пытанне выдзялення апошняга, 6-га транша крэдыта на паўмільярда долараў з агаворкай, што наша краіна не выканала неабходных умоваў крэдытавання і параметры развіцця эканомікі. Сёлета ў пачатку года назіраецца змяншэнне заробкаў беларусаў, пачало расці беспрацоўе і не забывайцеся, што Беларусі яшчэ трэба пераплаціць па дзярждоўгу 4 млрд. долараў на фоне нездавальняючай сітуацыі на знешніх рынках збыту.

Беларускі парламент зацвердзіў праграму дзейнасці ўрада на 2015 год ва ўмовах нарастання знешніх выклікаў і пагроз, найперш з суседняй Расіі, дзе сутыкнуліся з сур'ёзным эканамічным крызісам. Расійскія калегі папярэдзілі афіцыйны Мінск, што сёлета могуць скараціць аб'ёмы закупак беларускіх тавараў на 30 %. Дарэчы, такое падзенне тавараабароту з РФ пачалося яшчэ ў мінулым годзе, беларускі экспарт тады ўпаў за год на 1,5 млрд. долараў па 16 асноўных таварных групах, сярод якіх продаж МАЗаў, трактароў МТЗ, седлавых цягачоў, бабруйскіх шын і, што дзіўна, беларускага малака, каўбас і мясапрадуктаў, свініны і замарожанай ялавічыны.

Беларускае кіраўніцтва сёлета хацела падтрымаць айчынны экспарт, а ў выніку выраслі толькі непрададзеныя складскія запасы і ўзаемныя неплацяжы. Праселі асноўныя віды прамысловасці, на шчасце, за выключэннем хімічнай і выпуску нафтапрадуктаў, калійных угнаенняў. Быў адзначаны і рост выпуску на 122,3 % айчынных медыкаментаў, але ж гэта галіна займае меней 1 % ВУП Беларусі. У астатніх галінах эканомікі ўжо відавочны спад і растуць праблемы. Як высветлілася, не так гэта проста адшукаць новыя перспектыўныя рынкі для збыту айчынных тавараў. Летась нашы вытворцы, як адзначалася ў парламенце, прыйшлі ў 2 новыя краіны свету, аднак туды прадалі прадукцыі толькі на 5 млн. долараў.

Аднымі загадамі ўпраўленцам выходзяць са службовых кабінетаў і болей займацца праблемамі канкрэтных заводаў і фабрык, зразумела, справу не паправіш. Можна колькі заўгодна казаць правільныя рэчы аб зніжэнні затрат, пашырэнні асартыменту выпуску тавараў, паляпшэнні іх якасці і больш актыўным прасоўванні таварных брэндаў, але на ўсё патрэбен час і ўліванні грошай. Вось і прадпрымальнікі на рынках слаба вераць, што ім усё ж дадуць распрадаць запасы тавараў. Слабыя надзеі і на створаную маніторынгавую групу на чале з экс-прэм'ерам М. Мясніковічам забяспечыць уздым эканомікі, бо аб'ектыўных умоў зараз для росту ВУП Беларусі няма, нізкі знешні дый і ўнутраны попыт на беларускую прадукцыю.

### Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 12.03.15 | | | | Пятніца 13.03.15 | | | | Субота 14.03.15 | | | | Нядзеля 15.03.15 | | | | Пан. 16.03. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ціск | 754 | 756 | 756 | 757 | 758 | 758 | 757 | 757 | 757 | 759 | 759 | 760 | 762 | 765 | 766 | 768 | 769 | 771 | 769 |
| Вільготнасць | 91 | 91 | 62 | 65 | 77 | 86 | 81 | 92 | 92 | 94 | 91 | 89 | 92 | 95 | 88 | 90 | 91 | 93 | 60 |
| Вецер м/сек | 5 Пн-У | 7 Пн-У | 9 Пн-У | 8 Пн-У | 9 Пн-У | 9 Пн-У | 8 Пн-У | 9 У | 8 У | 8 У | 8 У | 7 У | 5 У | 5 У | 5 У | 4 У | 4 У | 5 У | 6 У |

## Дзень за днём

**Пачатак года аказаўся правальным для айчыннай прамысловасці, складскія запасы выраслі яшчэ на 4 трлн. рублёў пры спадзе вытворчасці на 6,2 %. Сярэдняя зарплата ў Беларусі ў студзені ўпала амаль на 800 тысяч і стала толькі крыху большай 400 $. Напрыканцы лютага рост цэн склаў ужо 3,3 %. Нацбанк знізіў норму абавязковай продажы валютнай выручкі да 40 %. Увод у эксплуатацыю першага энергаблока Беларускай АЭС перанеслі на 12 месяцаў на 2018 год. З-за зніжэння попыту паязды з Беларусі ў Расію стануць хадзіць радзей. Для беларусаў зноў падаражэлі ў сакавіку асобныя віды цыгарэт.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзяржсакратар Джон Керры паведаміў, што супраць Расіі будуць уведзены новыя, больш сур'ёзныя санкцыі, яны нанясуць урон ужо і простым расіянам за агрэсію РФ.

**Расія.** Газета "Коммерсантъ" на сваім сайце пацвердзіла, што ў Данбасе з украінскімі войскамі ваююць не "шахцёры", а прафесійныя расійскія ваенныя замест сепаратыстаў.

**Англія.** Прэм'ер-міністр Дэвід Кемерон заявіў, што незаконныя дзеянні Расіі на Украіне вышлі на новы ўзровень і прыгразіў Маскве жорсткімі санкцыямі за зрыў перамір'я.

**ААЭ.** Прэзідэнт Украіны П. Парашэнка дамовіўся з кіраўніцтвам эміратаў аб пастаўках сучаснага ўзбраення і ваеннай тэхнікі, іх віды і аб'ёмы паставак пакуль не агалошваліся.

**Эстонія.** Глава МЗС краіны Кейт Розіманнус назвала рэжым Пуціна "нахабным, агрэсіўным і непрадказальным" і заклікала НАТО і ЕС да жорсткага адпору Крамлю.

**Расія.** Сапраўдны шок у свеце выклікала нахабнае забойства побач з Крамлём аднаго з лідараў апазіцыі Барыса Нямцова, каля 100 тысяч чалавек выйшлі на марш яго памяці.

**Украіна.** На фоне заявы Пуціна, што вайны з Украінай не будзе, "Газпрам" не паставіў украінцам аплачаны папярэдне ў лютым газ у аб'ёме 67 мільёнаў кубаметраў.

**Германія.** Нездавальняючай назваў прэс-сакратар урада краіны Штэфан Зайберт рэалізацыю мінскіх дамоўленасцей па спыненні вайны ў Данбасе з-за дзеянняў Расіі.

**Грэцыя.** Урад краіны прадставіў у Еўракамісію спіс плануемых рэформ, чаго і дабіваліся міжнародныя крэдыторы для працягу дзеяння праграмы фінансавай дапамогі Грэцыі.

**ЗША.** Яшчэ адно агенцтва Moody's панізіла суверэнны рэйтынг Расіі да "смеццевага" неінвестыцыйнага ўзроўню, для рускіх яшчэ больш закрыецца знешні рынак займаў.

**Казахстан.** Глава МЗС Е. Ідрысаў пацвердзіў, што для краіны сёлета галоўны прыярытэт уступіць у Сусветную гандлёвую арганізацыю, пашырыць супрацоўніцтва з Еўрасаюзам.

**Расія.** З-за санкцый і эканамічнага крызісу дэфіцыт сродкаў Пенсійнага фонду РФ наблізіўся да 3 трыльёнаў рублёў, што вымушае ўрад павышаць для рускіх пенсійны ўзрост.

**Кітай.** Краіна выйшла на 1-е месца ў свеце па пакупках найноўшых тэлевізараў 4К ультравысокай якасці, летась іх тут купілі 8,5 мільёнаў штук з прададзеных 11,6 мільёнаў апаратаў.

**Аўстрыя.** Пракуратура пацвердзіла, што былы зяць прэзідэнта Казахстана і былы пасол Р. Аліеў пакончыў жыццё самагубствам у адзіночнай камеры турмы Вены.

**Расія.** Па прычыне гібрыднай вайны з Украінай заробкі расіян упалі да 415 долараў, краіна апусцілася ў дзясятку самых бедных і малааплачваемых дзяржаў Еўропы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Услед за МТЗ на скарочаны графік працы перайшоў і сталічны МАЗ, адтуль звольнілі больш 2-х тысяч чалавек, усяго ж з заводаў Мінпрама – ужо больш 10 тысяч.

**Мінск.** Глава ўрада РБ А. Кабякоў пацвердзіў, што ўзвядзенне жылля з дзяржпадтрымкай сёлета зменшыцца на трэць з-за крызісу ў РФ, а рост цэн можа дасягнуць 25 %.

**Бабруйск.** Два буйныя прадпрыемствы горада "Фандок" і "Бабруйскбудкамплект" не выплацілі заробкі супрацоўнікам, праблемы збыту і ў заводаў-партнёраў МТЗ і МАЗа.

**Мінск.** І ў сталіцы рэзка ўпала пакупніцкая актыўнасць насельніцтва, з-за высокай арэнднай платы закрываюцца многія магазіны і нават дыскаўнтары ў гандлёвых цэнтрах.

**Гродна.** КДБ Беларусі арыштаваў генеральнага дырэктара холдынга "Зов" і яшчэ 9 чалавек за пакупку за валюту складоў для мэблі ў Маскве, яны там рэзка патаннелі на 1 мільён долараў.

**Мінск.** Ажыятаж у сталіцы выклікала забойства крымінальнага аўтарытэта з Кіргізіі, яго труп з перарэзаным горлам у аўто знайшлі на аўтастаянцы побач з гаражамі Саўміна.

**Магілёў.** У горадзе закрылі для праходу аварыйны ўчастак Пушкінскага маста праз Днепр, дзе вечарам абрушыліся адразу 7 пралётаў агароджання, мост даўно патрабуе капрамонту.

**Мінск.** Пракуратура абвінавціла сына былога высокапастаўленага чыноўніка У. Заметаліна і 6 яго падзельнікаў у стварэнні сеткі ілжэпрадпрымальніцкіх структур.

**Ліда.** З-за дрэннай сітуацыі на рынках Расіі на прадпрыемстве "Лакафарба" скарацілі цэх і перайшлі на працу 4 дні на тыдзень, людзі сталі трымацца за свае працоўныя месцы.

**Брэст.** Польска-беларускае мясаперапрацоўчае прадпрыемства "Інка-Фуд" пачало ўнутранае службовае расследванне па сутнасці прэтэнзій Рассельгаснагляду.

**Мінск.** Галоўнай перашкодай для паляпшэння адносін ЕС і Беларусі, як пацвердзіла глава дыппрадстаўніцтва Еўрасаюза Майра Мора, застаюцца палітычныя зняволеныя.

**Нясвіж.** Дырэкцыя мясцовага нацыянальнага музея-запаведніка дамовілася з калегамі з музеяў замкаў Францыі аб абмене экспазіцыямі і экспертамі, аб арганізацыі выстаў.

**Мінск.** Упершыню ў Беларусі ў РНПЦ трансплаталогіі органаў і тканак паспяхова правялі першую аперацыю па перасадцы лёгкага, яе чакаюць яшчэ 10 хворых пацыентаў.

**Беразіно.** Суд пакараў 6 гадамі зняволення прапаршчыка-кантралёра Жодзінскай турмы за давядзенне да самагубства вязня, майстра спорту, сына ўплывовага функцыянера.

**Мінск.** З арэнднай кватэры па вуліцы Караля высялілі за даўгі сям'ю былога міліцыянера, які спіўся разам з жонкай, высяленне чакае яшчэ дзве праблемныя сям'і даўжнікоў.

## ДМК зрабіў больш жорсткімі нормы ўвозу з-за мяжы некаторых тавараў для асабістага карыстання




■ Аляксей Арэшка, БелаПАН

**Дзяржаўны мытны камітэт Беларусі зрабіў больш жорсткімі нормы ўвозу з-за мяжы некаторых тавараў для асабістага карыстання.**

Як адзначаецца ў паведамленні ДМК, аналіз нарматыўных тэрмінаў выкарыстання розных катэгорый тавараў паказаў, што тэрмін службы бытавой тэхнікі, сантэхнічнага абсталявання складае, як правіла, не менш за пяць гадоў, шын - не менш двух гадоў.

«З улікам выкладзенага з 10 сакавіка 2015 г. змяняюцца падыходы да аднясення што перамяшчаюцца фізічнымі асобамі тавараў да тавараў для асабістага карыстання, у частцы ўстанаўлення магчымасці ўвозу ў якасці тавараў для асабістага карыстання: на працягу трох каляндарных гадоў па 1 адзінцы наступных катэгорый тавараў: пліты газавыя (альбо электрычныя) кухонныя, варачныя панэлі, выцяжкі бытавыя, кухонныя камбайны, печы мікрахвалевыя, духавыя шафы, ванны, душавыя кабіны, ракавіны для сцёку вады, ракавіны для мыцця, бідэ , унітазы, бачкі зліўныя, халадзільнікі-маразільнікі бытавыя, халадзільнікі бытавыя, маразільнікі бытавыя, машыны посудамыйныя, машыны пральныя бытавыя, кавамашыны бытавыя, машыны швейныя бытавыя, воданагравальнікі бытавыя, кампутарныя маніторы каляровыя з вадкакрышталічным экранам, ноўтбукі (нэтбукі), планшэтныя ПК, капіравальна-размнажальная тэхніка, апаратура прыёмная для тэлевізійнай сувязі, кандыцыянеры, касілкі для газонаў (трымеры), пыласосы, зварачныя апараты бытавыя, электрагенератары бытавыя, абсталяванне для мыйкі аўтамабіляў бытавое, дзіцячыя калыскі (кожнага віду ў залежнасці ад узросту дзіцяці), лодачныя матары, грамадзянская гладкаствольная або наразная зброя і яго часткі; на працягу двух каляндарных гадоў да 4 адзінак (да 2 ці 3 (пры наяўнасці калыскі) адзінак у дачыненні да матацыклаў, мапедаў, матароллераў) летніх пнеўматычных шын (альбо колаў з летнімі шынамі, у тым ліку былых ва ўжыванні) альбо да 4 адзінак (да 2 ці 3 (пры наяўнасці калыскі) зімовых пнеўматычных шын (альбо колаў з зімовымі шынамі, у тым ліку былых ва ўжыванні) да кожнага транспартнага сродку для асабістага карыстання, які знаходзіцца ва ўласнасці фізічнай асобы, што перамяшчаюцца такія тавары, пры ўмове дакументальнага пацверджання службовай асобе мытні права ўласнасці на транспартны сродак для асабістага карыстання, да 4 дыскаў да транспартных сродкаў для асабістага карыстання», - гаворыцца ў паведамленні ДМК.

Абмежаванні па нормах увозу не будуць дзейнічаць для тавараў, увезеных з выплатай сукупнага мытнага плацяжу.

Вылічэнне ўказаных тэрмінаў (тры каляндарных года і два каляндарных года) адбываецца з 31 сакавіка 2014 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў пацвердзіў, што ў перспектыве застанецца ў рэгіёне працаваць толькі 6 ільнозаводаў, для іх створаць сыравінныя зоны ў суседніх раёнах.

**Лёзна.** Расійскія ветэрынары за 2 дні забаранілі ўвоз на тэрыторыю РФ больш 230 тон бульбы, яблыкаў, груш, морквы, якія накіроўваліся з тэрыторыі Беларусі.

**Віцебск.** Літоўская гандлёвая сетка Norfa падпісала дагавор аб пабудове і адкрыцці ў горадзе летам 2016 года свайго першага супермаркета гандлёвай плошчай 4000 квадратных метраў.

**Фарынава.** На базе былога камбіната сельскага домабудаўніцтва выдаў пробную партыю вырабаў новы сучасны завод металаканструкцый, аналагаў якой няма ў Беларусі.

**Варапаева.** Мясцовы ДАК застаўся без заказаў і быў поўнасцю абясточаны за неаплату электраэнергіі, шмат цяжкасцей і ў завода ЖБВ, ён стаў працаваць толькі 3 дні на тыдні.

**Віцебск.** Суд пакараў годам турмы ўмоўна за службовую халатнасць 25-гадовую правадніцу, пры спробе пакінуць яе вагон поезда цяжкую траўму атрымала пенсіянерка.

**Глыбокае.** Многіх у горадзе шакіраваў трагічны факт гібелі вучня 11 класа адной з мясцовых школ, следства высветліць, як ён мог змерзнуць, альбо атруціцца ад алкаголю.

**Лепель.** Міліцыя затрымала 59-гадовага мужчыну, які каля кафэ забіў нажом за зробленую толькі заўвагу аб дрэнных адносінах да жанчыны яе 34-гадовага дарослага сына.

**Полацк.** Траім браканьерам з горада пагражае да 6 гадоў турмы за незаконнае забойства зноў ласіхі, з іх 2 затрымліваліся летась за парушэнні закона, у іх канфіскавалі зброю.

**Браслаў.** У вёсцы Самуйлы занадта раўнівы 60-гадовы мясцовы жыхар зарэзаў 48-гадовую жанчыну, потым паспрабаваў няўдала застрэліцца з паляўнічага ружжа.

**Віцебск.** У цэнтры вярхавой язды пасёлка Тулава пасяліўся адзіны ў Прыдзвінні гадавалы паўночны алень па мянушцы Норд, падружыўся з людзьмі і з жыўшай тут поні.

**Ушачы.** У раённым Доме культуры, школах, бібліятэках раёна прайшлі літаратурна-музычныя вечарыны і дні памяці земляка, народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

**Орша.** У пасёлку Высокае на будынку дзяржпрафліцэя адкрылі 18-ю па ліку мемарыяльную дошку памяці земляка, воіна-інтэрнацыяналіста Анатоля Апекі.

**Талачын.** Пад раніцу каля пасёлка Слаўнае 25-гадовы вадзіцель фуры Mercedes-Benz заснуў за рулём, зляцеў у кювет і загінуў пасля ўдару ў прыдарожнае дрэва.

**Наваполацк.** Выхаванка мясцовай СДЮШАР Дар'я Блашко стала двухразовай чэмпіёнкай свету па біятлоне сярод юніёраў у спрынце і ў эстафеце ў Раўбічах.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

Гартаючы сямейны альбом

# Янка Дрозд – “нацдэм” з Глыбокага

**Бадай у кожнай сям’і захаваўся стары альбом з дзясяткамі фатаграфій. Гэта – нашыя прадзеды і прабабулі, дзядулі і бабулі. Кожны з іх пакінуў свой адметны след на зямлі. Хтосьці быў вайскоўцам, нехта доктарам, а іншы настаўнікам... Давайце, пагартаем сямейныя альбомы! А раптам Вы знойдзеце фота Вашага сваяка, лёс якога варты апісання. Аднак, пры жыцці якога не было напісана і радка. Лёс жа любога чалавека – асобны своеасаблівы свет.**

**Наша прапанова маладым людзям, у прыватнасці, школьнікам: пагартайце старыя сямейны альбом, угледзьцеся ў твары Вашых прадзядуляў і дзядуляў, прабабуляў і бабуляў... Апытайце тату і маму. Запэўніваем Вас, у Вашым старым альбоме, які Вы апошні раз гарталі гадоў мо пяць таму і ізноў абыякава паклалі ў шафу, дакладна, знаходзіцца захапляльная гісторыя, аб якой варта даведацца ўсім. Напішыце сваю цікавую гісторыю аб Вашым продку. Дасылайце яе на электронны адрас “Вольнага Глыбокага”: *vglybokaye@tut.by* альбо ў канверце на адрас: *п/с №3, 211800, г. Глыбокае.***

***

У маёй колішняй настаўніцы гісторыі Зоі Вікенцьеўны Дрозд (Голікавай) – шмат старых здымкаў. Фундаментальная гісторыя Глыбокага!

– Што за хлопец у вышыванцы?– пытае аўтар гэтых радкоў.

*– Іван Дрозд, мой стрыечны брат,–* кажа Зоя Вікенцьеўна. *– Яго, за савецкім часам, у нашай сям’і, у прысутнасці староніх людзей, не згадвалі. Баяліся. “Нацдэм”! У 1926-м Іван перайшоў польска-савецкую мяжу. Жыў у Мінску ў Сабалеўскіх. Яго расстралялі ў 1934-м, г.зн. стаўся залічаным у “ворагі народу”.*

Аўтара гэтых радкоў зацікавіў лёс Янкі Дразда... Аднак ніякія пошукавыя сістэмы інтэрнэту не далі хаця б якога выніку. Не пісалі яшчэ пра Янку Дразда! Пісалі, хіба што, чэкісты, а напісанае імі ляжыць у архівах спецслужбаў, падалей ад цікаўных вачэй...



**Янка Дрозд.**

На зваротным баку фота – подпіс: *“На ўспамін дарагім бацькам, аб бегляцу. Янка. 16-VI-27 г.”*
*З сямейнага альбома З.В. Дрозд.*






№ 18.

СВѢДѢНІЯ

объ успѣхахъ, поведеніи, вниманіи и прилежаніи

ученика I класса

Глубокскаго Высшаго Начальнаго Училища.

Дрозда Ивана

За 1917-1918 учеб. годъ.

**“Звесткі аб поспехах, паводзінах ... вучня 1-га класа Глыбоцкай вышэйшай пачатковай вучэльні Івана Дразда за 1917-18 навучальны год”.** *З сямейнага альбома З.В. Дрозд.*

Янка Дрозд нарадзіўся ў Глыбокім у 1907 годзе. Скончыў Глыбоцкую вышэйшую пачатковую вучэльню. Затым Віленскую беларускую гімназію. Ужо сам факт сканчэння ***беларускай*** гімназіі “за польскім часам” шмат аб чым сведчыць. Сёння сказалі б – “свядомы беларус, патрыёт”!

Пра што думаў Янка Дрозд, свядомы беларус, у 1926-м пераходзячы польска-савецкую мяжу? – мы не даведаемся ніколі. Аднак ёсць стэрэатып, які склаўся паводле выказванняў сотняў уцекачоў, падобных на Янку свядомых беларусаў, што перайшлі польска-савецкую мяжу пад уздзеяннем моцнай бальшавіцкай антыпольскай прапаганды, якая праводзілася ў Заходняй Беларусі рознымі пракамуністычнымі групоўкамі.

*– Я хачу жыць, вучыцца, і працаваць у савецкай краіне, у беларускай савецкай рэспубліцы, дзе развіваецца беларуская культура, навука і літаратура. Такое не магчыма ў панскай Польшчы. Хачу быць будаўніком камунізму і карысным беларускаму народу.* Гэта – стэрэатып, так думалі шматлікія. І Янка, магчыма.

Аднак тут была яшчэ і адна важная акалічнасць, якая найбольш магла схіліць Янку Дразда да пераходу мяжы. Віленская беларуская гімназія не мела правоў дзяржаўнай. Яна была прыватнай. Некаторыя прыватныя гімназіі, як гімназія імя Люблінскай уніі ў Глыбокім, мелі правы дзяржаўных, і пасля сканчэння іх можна было падаваць дакументы на паступленне ў польскія ўніверсітэты. А выпускнікам Віленскай беларускай гімназіі трэба было здаваць гэтак званую “матуру” – дзяржаўныя іспыты за курс сярэдняй навучальнай установы. Пад палову выпускнікоў не маглі здаць “матуру”, у прыватнасці, праз кепскае веданне польскай мовы. Значыць, не маглі паступіць ва ўніверсітэт. Такі парадак быў ці не да 1929 года.

Таму многія выпускнікі Віленскай беларускай гімназіі імкнуліся патрапіць ці ў Мінск, ці ў Прагу – тамтэйшыя ўніверсітэты прызнавалі атэстаты Віленскай беларускай гімназіі, і былыя гімназісты маглі спакойна атрымліваць вышэйшую адукацыю. Ды і стыпендыі ад савецкага і чэшскага ўрадаў можна было атрымаць.

Янка Дрозд мог уцячы і дзеля працягу вучобы.

Трэба яшчэ адзначыць, што ў вучняў і некаторых настаўнікаў Віленскай беларускай гімназіі ў 1920-я гады былі моцныя пракамуністычныя сімпатыі. Толькі ў 1928-м, калі Луцкевіч і Астроўскі сталі на шлях паланафільства, з камунізмам у гімназіі сталі сур’ёзна змагацца.

Пераходзячы мяжу, яны былі наіўныя і не падазравалі, у якую пастку іх завабліе бальшавіцкая прапаганда і выгоды савецкай адукацыі.

Што чакала Янку Дразда ў Савецкай Беларусі? Як склаўся яго лёс? Мы маглі б аб гэтым ніколі і не даведацца, як не даведаемся аб лёсе сотняў іншых уцекачоў, якіх было шмат і з нашага Глыбокага! Дзякаваць Богу, у нашым рэдакцыйным архіве захаваліся ўспаміны, якія напісаныя в.п. Антонам Сабалеўскім, дзеячом беларускай дыяспары ў Маскве. Незадоўга да сваёй хваробы (інсульт), гадоў сем таму, ён завітаў у Глыбокае[1] і перадаў нам рукапіс. Друкуем вынятку з захаваннем правапісу арыгінала.

***

У 1926 годзе з Заходняй Беларусі, якая ў той час была ў складзе Польшчы, нелегальна, пераходам праз дзяржаўную мяжу, прыбылі ў Менск глыбачане – заходнебеларускія камсамольцы Янка Дрозд і Сава Артаеў, якія ў 1926 годзе закончылі Віленскую Беларускую гімназію. Янка Дрозд – пляменнік Вольгі Кліменцьеўны[2], а Сава Артаеў – сын глыбоцкага фельчара, які з сям’ёй кватараваў у хаце Лукаша і Вікенція Драздоў[3] – братоў Вольгі Кліменцьеўны.

Маладыя мальцы былі ласкава прынятыя на кватэру Аляксандра Сабалеўскага і пасля праверкі іх службоўцамі бяспекі атрымалі афіцыйны дазвол на сталае пражыванне і вучобы ў БССР.

У 1926 годзе Я. Дрозд паступіў на эканамічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, пасля заканчэння якога ў 1931 годзе быў накіраваны на працу па спецыяльнасці эканамістам у г. Беразіно, Барысаўскага раёна.

Аднак у кастрычніку 1933 года Янка Дрозд быў беспадстаўна арыштаваны НКУС ДПУ у складзе 97 чалавек, з якіх амаль усе былі ***заходне-беларускімі*** грамадскімі і палітычным дзеячамі, альбо выпускнікамі Віленскай і Радашковічскай беларускіх гімназій. Трэба адзначыць, што ўсе яны ўнеслі значны ўнёсак у справу беларускага нацыянальнага адраджэння на тэрыторыі Заходняй Беларусі.Усё гэта дало падставу следчым НКУС ДПУ ў Маскве падрыхтаваць чарговы сцэнар па выкрыцці і ліквідацыі шырокаразгалінаванай кантрарэвалюцыйнай, паўстанцкай і шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі ***“Беларускі нацыянальны цэнтр. Справа № 233771 і яе філіялы ў Горках і Беразіно”***. Следчым НКУС з Масквы і было даручана ажыццявіцьляць справу кіраўніцтва “БНЦ” над найбольш вядомымі былымі дзеячамі нацыянальна-вызваленчага руху Заходняй Беларусі – заснавальнікам Беларуска-сялянскай работніцкай грамады, паслам польскага сойму ў розныя гады: Сымону Раку-Міхайлоўскаму, Пятру Мятле, Язэпу Гаўрыліку, Ігнату Дварчаніну, Паўлу Валошыну, Максіму Бурсэвічу. Большасць з тых, хто праходзіў па “справе БНЦ” былі расстраляныя ў даваенныя гады.

Калегіяй ОГПУ пратакол №3 ад 9.01.1934 года ў складзе: Паркоф’еў, Артузаў, Фельдман, пракурор Катаян. Прысутнічалі: т. Малчанаў, Найдзіч, Плінер, Клімаў, Юртаеў, Алішэўскі, завочна пазасудовым чынам Янку Дразду вынесены вырак: – расстрэл згодна УК БССР 64, 67,68 у ***“членстве контррэвалюцыйнай паўстанцка-дыверсійнай арганізацыі і шпіянажы”*** .

Здраднікам і шпіёнам таталітарны рэжым бачыў кожнага. “Справа БНЦ” гэта – працяг мэтанакіраванай барацьбы камуністычнай партыі па камандзе Сталіна з Крамля ў 1930-яя гады з іншадумствам, а па-сутнасці – генацыд яе эліты, фізічнае вынішчэнне.

Моц сталінізму была ў тым, што ён не толькі фізічна знішчаў людзей, алё ён забіваў душы жывых, бо пры дапамозе бацылы страху і гвалту пранік у клетку, зменіў, перайначыў генатып таго, што мы прызвычаіліся называць народам.

Вось пад такі крывавы каток трапіў былы заходнебеларускі камсамолец Янка Дрозд. У 1967 годзе праз 33 гады адбылася рэабілітацыя па справе № 233771 у адносінах да ўсіх 97 чалавек. Справа была “спыненая за адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства”.

***

Янка Дрозд, калі выводзілі на расстрэл, убачыў у суседняй камеры дзяўчыну, з якой разам вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, сказаў мімаходзь: “Я не выдаў нікога!” Як згадваў Антон Сабалеўскі, аўтар успамінаў і даследаванняў[4], родныя Янкі Дразда ўсё яшчэ насілі ў турму перадачы... Іх бралі, але ніхто там не казаў, што пляменніка Янкі ўжо няма ў жывых. І толькі праз некалькі тыдняў супрацоўнік турмы, зжаліўся: “Не насіце больш! Яго расстралялі...”

***

Органы НКУС не пакідалі ў спакоі і сям’ю Сабалеўскіх. Аляксандр Антонавіч Сабалеўскі (бацька Антона Сабалеўскага), паходзіў з Заходняй Беларусі, меў у Глыбокім сваякоў, а яшчэ ўлічваючы, што пляменнік Вольгі Кліменцьеўны – Янка Дрозд – быў у траўні 1934 года расстраляны па справе “БНЦ”, яго часта выклікалі на допыты ў НКУС.

Вось такая атмасфера страху і няўпэўненасці панавала сярод інтэлігенцыі падчас славутага “канвеера рэпрэсій” супраць эліты беларускага народа ў 30-я гады 20 стагоддзя.

Аляксандра Сабалеўскага, як звычайна, выклікалі на начныя допыты па высвятленні яго так званага палітычнага аблічча, а таксама з патрабаваннямі расказаць пра радавод Вольгі Кліменц’еўны аж да 10 калена.

Усё гэта вельмі адмоўна ўплывала на маральна-псіхалагічны настрой у сям’і, што і падлетак (Антон) падчас у паводзінах бацькоў адчуваў трывогу і няўпэўненасць. Асаблівa цяжка было ў той час Вользе Кліменцьеўне вечарамі ў цьмяныя шэрыя гадзіны.

**Тлумачэнні па тэксту:**

1 Дом Сабалеўскіх – на вул. Савецкай у Глыбокім, насупраць дома – помнік падпольшчыкам. Пасля вайны Сабалеўскія жылі ў Глыбокім.

2 Вольга Кліменцьеўна Дрозд была жонкай Аляксандра Антонавіча Сабалеўскага, вядомага ў пасляваенны час педагога і краязнаўцы Глыбоччыны. Антон Сабалеўскі, аўтар успамінаў, – іх сын.

3 Сёння дом па вул. Горкага, 111 (на тым часе – вул. Генрыка Сянкевіча), у гэтым доме першапачаткова і была лякарня Артаева.

4 Успаміны і даследаванні Антона Сабалеўскага – досыць вялікія па аб’ёме, мы іх апублікуем цалкам, як на тое з’явіцца магчымасць.

# Паводле папярэдніх даных, на 1 студзеня 2015 года колькасць жанчын у Беларусі склала 5 млн. 72 тыс. чалавек, ці 53,5% агульнай колькасці насельніцтва.

**У гарадах і пасёлках гарадскога тыпу пражывае 77,8% жанчын, у сельскіх населеных пунктах — 22,2% жанчын. Такія даныя апублікаваў Белстат напярэдадні Міжнароднага жаночага дня.**

У сярэднім па Беларусі на 1.000 мужчын прыходзіцца 1.150 жанчын, у гарадах і пасёлках гарадскога тыпу — 1.167, у сельскіх населеных пунктах — 1.095 жанчын.

Сярэдні ўзрост беларускіх жанчын на пачатак 2014 года склаў 42,3 гады: жанчын, якія пражываюць у сельскіх населеных пунктах, — 47,5, жыхарак гарадоў і пасёлкаў гарадскога тыпу — 40,8 гадоў.

У апошнія гады на 100 дзяўчынак у Беларусі нараджаецца 106—107 хлопчыкаў, і да 30-гадовага ўзросту колькасць мужчын перавышае колькасць жанчын. Аднак затым назіраецца адваротны працэс, звязаны з высокай смяротнасцю мужчын.

Паводле ацэнкі ПРААН, натуральнай розніцай у чаканай працягласці жыцця мужчын і жанчын прынята лічыць 5 гадоў. Тым часам у Беларусі на працягу апошніх двух дзесяцігоддзяў розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын перавышае гэты паказчык больш чым у два разы і складае 10—12 гадоў.

Як і для шматлікіх еўрапейскіх краін, для Беларусі характэрная тэндэнцыя павелічэння сярэдняга ўзросту жанчын, якія ўпершыню бяруць шлюб. Калі ў 2005 годзе сярэдні ўзрост жанчын, якія ўпершыню ўзялі шлюб, складаў 23,5 года, а мужчын — 25,7 года, то ў 2014 годзе гэтыя паказчыкі выраслі адпаведна да 25,3 і 27,4 года.

"Сведчаннем павышэння прэстыжу сям'і і ўмацавання шлюбна-сямейных адносін з'яўляецца павелічэнне долі нараджэння дзяцей у жанчын, якія знаходзяцца ў зарэгістраваным шлюбе, з 75,8% у 2005 годзе да 85,1% — у 2014-м. Доля дзяцей, народжаных у жанчын, якія жывуць у незарэгістраваным шлюбе, знізілася за гэты ж перыяд з 24,2% да 14,9%", — адзначылі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.

У 2014 годзе, паводле папярэдніх даных, у Беларусі нарадзілася 118,7 тысячы дзяцей (у 2005 годзе — 90,5 тысячы), узровень нараджальнасці склаў 12,5 на 1.000 чалавек насельніцтва.

*Марына Носава, БелаПАН*



# Будаўніцтва жылля з дзяржфінансаваннем у 2015 годзе ў Віцебскай вобласці будзе сканцэнтравана ў райцэнтрах

**Будаўніцтва жылля з дзяржфінансаваннем у 2015 годзе ў Віцебскай вобласці будзе сканцэнтравана ў райцэнтрах, паведаміў карэспандэнту БелТА начальнік камітэта па архітэктуры і будаўніцтве Віцебскага аблвыканкама Ігар Ісачанка.**

План па жыллёвым будаўніцтве ў Віцебскай вобласці на гэты год зацверджаны ў памеры 400 тыс. кв.м. Пры гэтым рэспубліканскае фінансаванне па крэдытных рэсурсах Беларусбанка вылучана ў суме Br550 млрд. "На гэтую суму ў пералік зацверджаных жылых дамоў уключаны 27 з агульнай плошчай 130 тыс. кв.м. Гэта жыллё для ўсіх катэгорый, якія маюць патрэбу ў ім. Прычым у 2015 годзе мы робім упор на райцэнтрах. Нам трэба загрузіць раённыя ПМК, паколькі асноўныя аб'ёмы працы ў іх цяпер складаюцца з жыллёвага будаўніцтва. У горадзе, дзе насельніцтва крыху больш забяспечанае, ёсць магчымасці для долевага будаўніцтва без дзяржпадтрымкі ці камерцыйнага", – растлумачыў Ігар Ісачанка.

У пакінутыя 270 тыс. кв.м увойдзе будаўніцтва індывідуальнага жылля (дарэчы, летась Віцебская вобласць усталявала рэкорд за апошнія некалькі гадоў у індывідуальным жыллёвым будаўніцтве – 148 тыс. кв.м), камерцыйнага і долевага. Невялікая сума вылучана па лініі Белаграпрамбанка на ўвод жылых дамоў на сяле.

Пасля таго, як нарэшце былі зацверджаны пералік жылых дамоў, якія будуюцца з дзяржпадтрымкай на 2015 год (пастанова Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва ад 27 лютага 2015 года №6), сітуацыя з тэмпамі будаўніцтва павінна палепшыцца, лічыць Ігар Ісачанка. "УКС самі ўсіх раёнаў будуць праведзены таргі на вызначэнне генпадрадчыка, з пераможцамі складзены дамовы. Актыўная будоўля пачнецца ў красавіку", – дадаў ён. Тым не менш ён не выключае, што па першым квартале ці паўгоддзю можа быць праведзена карэктоўка праграмы жыллёвага будаўніцтва ў бок памяншэння.

Па словах начальніка камітэта, асноўны прыярытэт цяпер – утрымаць кошт квадратнага метра, асабліва для камерцыйнага жылля. "Паколькі тут чым хутчэй пабудуеш, тым менш выдаткі і, адпаведна, кошт квадратнага метра. А значыць, можна хутчэй гэтыя кватэры рэалізаваць і атрымаць вызначаны прыбытак прадпрыемству", – растлумачыў ён.

*Кацярына Князева - БЕЛТА*



**У Беларусі з 10 сакавіка ўведзены новыя падыходы да ўвозу тавараў для асабістых патрэб. Аб гэтым паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе Дзяржаўнага мытнага камітэта.**

# Новыя падыходы да ўвозу тавараў для асабістых патрэб уведзены ў Беларусі

У прыватнасці, на працягу трох гадоў у якасці тавараў для асабістага карыстання (без выплаты мытных пошлін) можна ўвозіць па 1 адзінцы кухонных газавых (або электрычных) пліт, варачных панэлей, бытавых выцяжак, кухонных камбайнаў, мікрахвалевых печаў, духавых шаф, ваннаў, душавых кабін, ракавін для сцёку вады, ракавін для мыцця, бідэ, унітазаў, зліўных бачкоў, бытавых халадзільнікаў-маразільнікаў, халадзільнікаў, маразільнікаў, посудамыечных машын, пральных машын, кава-машын, швейных машын, бытавых воданагравальнікаў, камп'ютарных каляровых манітораў з вадкакрысталічным экранам, ноўтбукаў (нэтбукаў), планшэтных ПК, капіравальна-размнажальнай тэхнікі, апаратуры прыёмнай для тэлевізійнай сувязі, кандыцыянераў, касілак для газонаў (трымераў), пыласосаў, бытавых зварачных апаратаў, бытавых электрагенератараў, бытавога абсталявання для мыйкі аўтамабіляў, дзіцячых калясак (кожнага віду ў залежнасці ад узросту дзіцяці), лодачных матораў, грамадзянскай гладкаствольнай або наразной зброі і яе частак.

На працягу двух гадоў можна ўвозіць да 4 адзінак летніх і зімовых пнеўматычных шын (або колаў з летнімі і зімовымі шынамі, у тым ліку былых ва ўжыванні) да кожнага транспартнага сродку для асабістага карыстання, што знаходзіцца ва ўласнасці фізічнай асобы, якая перамяшчае такія тавары. Без пошліны таксама дазволена ўвозіць да 4 дыскаў.

Выключэнні складаюць тавары, увезеныя з выплатай сукупнага мытнага плацяжу.

Вылічэнне названых тэрмінаў (3 і 2 гады) ажыццяўляецца з 31 сакавіка 2014 года.

*БелТА.*

# Ужо 176 прадпрыемстваў Віцебскай вобласці завінаваціліся сваім працаўнікам зарплату

Колькасць арганізацый з пратэрмінаванай запазычанасцю па зарплаце ў Віцебскай вобласці за месяц вырасла больш за ў 2 разы — з 77 па стане на 1 лютага да 176 на 1 сакавіка.

У Віцебску працаўнікі будаўнічага трэста №9 не могуць атрымаць зарплату і дапамогу па доглядзе за дзіцём

Як і перш сярод даўжнікоў ААТ «Класіка індустрыі моды», ААТ «Віцебскі камбінат шаўковых тканін», ААТ «Сцяг Індустрыялізацыі». Да іх дадаліся віцебскі «Візас» і полацкі «Тэхналіт», «Гарадоцкі льнозавод» і ***ААТ «Купцовъ» з Глыбокага***. Асноўную масу даўжнікоў складаюць калгасы, раённыя аграсэрвісы і ПМК.

Усяго па Беларусь у 510 арганізацыях мелася пратэрмінаваная запазычанасць па заработнай плаце перад 87,3 тыс. Працаўнікамі, такім чынам на Віцебскую вобласць даводзіцца 34,5% арганізацый даўжнікоў. Сума пратэрмінаванай запазычанасці дасягнула 300,6 мільярдаў рублёў.

*ННВ*

# Інфляцыя ў Беларусі за люты склала 1,7 працэнта

**Індэкс спажывецкіх цэн на тавары і паслугі ў лютым 2015 года ў параўнанні са студзенем 2015 года склаў 101,7 працэнта, са снежнем 2014 года - 104,1 працэнта. Аб гэтым БЕЛТА паведамілі ў Нацыянальным статыстычным камітэце.**

Базавы індэкс спажывецкіх цэн, які выключае змяненні цэн на асобныя тавары і паслугі, што зведваюць уплыў фактараў адміністрацыйнага і сезоннага характару, у лютым 2015 года ў параўнанні са студзенем гэтага года склаў 101 працэнт, са снежнем 2014 года – 102,8 працэнта.

Харчовыя тавары ў лютым падаражэлі на 2,3 працэнта ў параўнанні са студзенем бягучага года, нехарчовыя – на 0,7 працэнта. Цэны і тарыфы на платныя паслугі ў лютым выраслі на 2 працэнты.

*БелТА*

# У канцы ліпеня ўзрасце максімальная сума штрафу за незаконнае перасячэнне мяжы

З 23 ліпеня 2015 года набудзе моц закон "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях арганізацыі грамадскай і пагранічнай бяспекі". Ім будзе ўзмоцнена адказнасць за шэраг парушэнняў заканадаўства аб дзяржаўнай мяжы.

Як паведамілі ў Дзяржпагранкамітэце Беларусі, з 23 ліпеня будзе павялічаны памер штрафу па арт. 23.29 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях "Наўмыснае незаконнае перасячэнне Дзяржаўнай мяжы Рэспублікі Беларусь". Цяпер максімальны памер штрафу складае 50 базавых велічынь, а мінімальны заканадаўствам не ўстаноўлены, з 23 ліпеня штраф па гэтым артыкуле будзе накладацца ў межах ад 10 да 100 базавых велічынь.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.*

# У сакавіку дазволена паляванне на дзіка з засады і з вышкі, з падыходу – на ваўка, лісіцу

**В.Е. Катовіч,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Паляванне з'яўляецца адным з самых старадаўніх і любімых захапленняў людзей. У старажытныя часы людзі палявалі, каб здабыць сабе пражытак, але з цягам часу паляванне паступова змяняецца. Некаторыя паляўнічыя разглядаюць паляванне не як нагоду здабычы дзікага звера, а хутчэй як спаборніцтва, хто каго абхітрыць, адрэналін б'е праз край. Такім паляўнічым трэба не мяса, а сапраўдны трафей.



У сакавіку на тэрыторыі рэспублікі дазволена паляванне на дзіка з засады з вышкі, з падыходу – на ваўка, лісіцу звычайную, сабаку янотападобную, баклана вялікага, чаплю шэрую, крумкача шэрага, сароку. З другой суботы сакавіка дазволена паляванне на гусака: шэрага, белалобага і гуменніка – па другую нядзелю траўня. У паляванні на ўказаную дзічыну таксама ёсць асаблівасці. Паляванне дазваляецца толькі ў светлы час сутак, раніцай або ўвечары, зброя павінна быць зараджаная толькі шротавымі патронамі (**5,25** мм – гэта карцеч, яе ўжыванне забаронена), ужываць зброю ў перыяд часу з 11 да 18 гадзін забаронена. Спосаб палявання – стрэльбавы з засады (скрадка), г.зн. павінна быць абсталявана ўтоенае месца палявання (хованка, маскіровачная сетка, будан і г.д.).

Хацелася б яшчэ раз звярнуцца да рыбаловаў-аматараў і нагадаць, што з 10 красавіка па 8 чэрвеня дзейнічаюць абмежаванні і забароны на лоўлю асноўных відаў рыбы. **Лоўля шчупака забаронена з 9 сакавіка па 25 красавіка.**

**Лоўля рыбы з лёду, з 10 красавіка забаронена. Парушальнікі будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці, штраф ад 10 да 50 базавых велічынь.**

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі выказваюць велізарную падзяку грамадзянам, якія аказваюць дапамогу ў барацьбе з парушальнікамі прыродаахоўнага заканадаўства.

Вы можаце патэлефанаваць на тэлефон "гарачая лінія": 8-02156-28670 -кругласутачна, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

# На пярэдадні паводкі

**А.А, Бекіш,**
*дзяржаўны інспектар па энергетычным наглядзе.*

**Глыбоцкая раённая энергаінспекцыя філіяла "Энерганагляд" нагадвае, што ў перыяд праходжання вясновай паводкі неабходна асаблівую ўвагу надаваць выкананню правіл электрабяспекі паблізу электрасеткавых аб'ектаў: ЛЭП, трансфарматарных падстанцый, размеркавальных прылад.**

Вясновая паводка можа выклікаць розныя пашкоджанні электраабсталявання ў выніку падтаплення электраўстановак, а апошнія ў сваю чаргу ўтойваюць смяротную пагрозу ў выглядзе высокай напругі.

Грамадзянам катэгарычна забараняецца знаходзіцца каля ліній электраперадачы ці трансфарматарных падстанцый, якія апынуліся ў зоне падтаплення ці лавіць рыбу ў ахоўных зонах ЛЭП. Гэта смяротна небяспечна для жыцця!

Забараняецца прадпрымаць самастойныя дзеянні па ўхіленні пашкоджанняў на электрасеткавым абсталяванні!

У выпадку выяўлення электраўстановак, якія апынуліся ў зоне падтаплення, абрыву праваdоў, іскрэнні, пашкоджанні апор, ізалятараў, незачыненых ці пашкоджаных дзвярэй трансфарматарных падстанцый ці электрычных шчытоў неабходна паведаміць аб пашкоджанні спецыялістам, дзяжурнаму дыспетчару раёна электрычных сетак па тэлефоне, які ўказаны на трансфарматарных падстанцыях (для Глыбоцкага раёна 2-62-41), інспектару Энерганагляду – 2-80-43. Таксама інфармацыю можна паведамляць па тэлефонах 101, 102 дзяжурным РАНС і РАУС.

Юрыдычным асобам і індывідуальным прадпрымальнікам – уладальнікам электрасеткавага абсталявання перад пачаткам вясновай паводкі неабходна:

– правесці пазачарговыя агляды электраўстановак у зонах схільных падтапленню;

– давесці да ладу дрэнажныя прылады, якія забяспечваюць адвод вады ад зачыненых трансфарматарных падстанцый;

– аднавіць знакі і плакаты бяспекі на электраабсталяванні;

– у найбольш небяспечных месцах усталяваць інфармацыйныя шчыты.



# МНС папярэджвае аб небяспецы вясновага выпальвання сухой расліннасці

**З пачатку 2015 года ў Беларусі зарэгістраваны 31 пажар травы і кустоўя, паведамляе Міністэрства па надзвычайных сітуацыях.**

МНС заклікае грамадзян да асцярожнасці з агнём, адзначаючы, што менавіта з наступленнем вясны ў краіне абвастраецца праблема выпальвання сухой травы. "У выніку паніжаецца ўрадлівасць глебы, пашкоджваюцца або поўнасцю знішчаюцца агнём пабудовы, гінуць людзі. Ад такіх пажараў могуць загарэцца тарфянікі, лясы", — гаворыцца ў паведамленні МНС.

"Выпальванне не прыносіць ніякай карысці, аднак дзясяткі людзей кожны год кідаюць запалку, каб пазбавіцца ад леташняга сухастою, — адзначаюць у ведамстве. — Выпальванне сухой травы толькі знішчае расліны, распыляючы карысныя для глебы мікраэлементы. Гэта прыводзіць да збяднення расліннасці, павышэння кіслотнасці і памяншэння ўрадлівасці грунту. Практычна ўсе жывёлы і насякомыя, якія жывуць у сухой траве або на паверхні зямлі, гінуць пры моцным травяным пажары. На пажарышчы вельмі часта знаходзяць згарэлыя птушыныя гнёзды, грызуноў, дзіцянят зайцаў, вожыкаў. Агонь наносіць непапраўны ўрон прыроднай разнастайнасці".

МНС нагадвае, што згодна з Кодэксам аб адміністрацыйных правапарушэннях за незаконнае выпальванне сухой расліннасці і непрыняцце мер па ліквідацыі выпальванняў прадугледжаны штрафы ад 10 да 40 базавых велічынь (ад 1,8 млн. да 7,2 млн. рублёў на сёння). А развядзенне вогнішчаў у забароненых месцах караецца штрафам у памеры да 12 базавых велічынь.

***БелаПАН.***



# На выходных у Віцебскай вобласці патанулі тры рыбакі

**Тры рыбакі патанулі ў вадаёмах Віцебскай вобласці за мінулыя выходныя: два чалавекі загінулі ў Верхнядзвінскім раёне і адзін — у Браслаўскім.**



7 сакавіка ў 19:00 выратавальнікі атрымалі паведамленне пра тое, што на возеры Асвея ля вёскі Навалкі Верхнядзвінскага раёна пад лёд праваліліся чатыры рыбакі. 31-гадоваму і 50-гадоваму мужчынам з Полацка атрымалася самастойна выбрацца, а 65-гадовы палачанін і 55-гадовы навапалачанін патанулі. Тых, якія выратаваліся з дыягназам «агульнае пераахаладжэнне» даставілі ў Асвейскую раённую лякарню.

8 сакавіка ў 15:06 у ЦАУ Браслаўскага РАНС паведамілі пра чалавека, які тоне на рацэ Друйка ля вёскі Дубкі. На месца выехалі выратавальнікі, аднак на паверхні вадаёма чалавека, які тоне, яны не выявілі. Было праведзена абследаванне ўчастка вусця ракі Друйка ўздоўж берагавой лініі. Са слоў рыбакоў-відавочцаў, якія знаходзіліся на месцы здарэння, даведаліся, што у палонцы на адлегласці каля 40 метраў ад берага пры лоўлі рыбы патануў 36-гадовы жыхар Браслаўскага раёна, паведамляе прэс-служба МНС.

# У Верхнядзвінскім раёне браканьеры ўцяклі ад інспектараў у Расію

17 лютага працаўнікі Верхнядзвінскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету зафіксавалі факт незаконнага палявання на тэрыторыі ТАА «Інтэрсервіс», аднак праследуемыя парушальнікі на аўтамабілі схаваліся на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі.

Праваахоўнымі органамі было ўсталявана, што дзяржаўны нумар машыны браканьераў зарэгістраваны ў Беларусі на аўтамабіль іншай маркі.

Пры абследаванні месца незаконнага палявання была выяўлена туша самкі лася з двума эмбрыёнамі. З яе вынялі кулю ад наразной зброі.

Верхнядзвінскім РАУС вырашаецца пытанне пра ўзбуджэнні крымінальнай справы па частцы 4 артыкула 282 КК – незаконнае паляванне, якая пацягнула прычыненне шкоды ў асабліва буйным памеры – 135 000 000 рублёў.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 16 сакавіка



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Главный эфир.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.40** Комедийный сериал **«Девичник»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.50** Сатирическая комедия **«Спортлото-82»**
**12.00** Новости.
**13.00** 90 секунд.
**13.45** Мелодрама **«Девушка средних лет»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.50** Мелодрама **«Девушка средних лет»** (Россия). 3-я и 4-я серии.
**16.00** 90 секунд.
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Арена.
**19.40** «Зона Х».
**20.00** **«Гетеры майора Соколова»**. 1-я с.
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум с Дмитрием Бочковым.
**22.45** **«Спортлото-82»** (СССР).
**00.35** «Зона Х».
**00.55** Новости.
**01.10** День спорта.



**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.00** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.10** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет. «Полоцкий волнолом».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Дело принципа».
**22.15** «Танцуй!».
**00.35** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Остросюжетный боевик **«Кулинар 2»** (Россия).
**10.05** Телебарометр.
**10.35** «Понять и обезвредить».
**11.10** Комедийный сериал **«Ландыш серебристый»** (Россия).
**12.50** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**15.15** Боевик **«Возвращение универсального солдата»** (США).
**16.45** **«Кулинар 2»** (Россия).
**17.55** **«Виртуозы»**
**18.55** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**20.00** «Хочу в телевизор».
**20.30** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**21.00** Реальный мир.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Телебарометр.
**21.35** **«Кости»** (США).
**23.30** **«Всемогущие Джонсоны»**
**00.25** **«Виртуозы»** Великобритания.
**01.20** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1\8 финала. Обзор.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.50** «Большой завтрак»
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Большой город».
**14.25** «Такова судьба».
**15.10** «Дальние родственники».
**15.35** «Пища богов».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Вовочка 2»**. Комедийный сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Документальный проект»: «Всем смертям назло».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Неделя спорта».
**23.30** «Кино»: **«Последнее лето в Бойте»**. Аргентина-Испания-Франция, 2009г.



**07.00** ПраСвет
**07.35** Зона «Свабоды»
**08.10** Людскія справы
**08.40** Два на два
**09.15** «Палігон», дак. фільм
**10.00** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**10.50** «Песні вайны», дак. фільм
**11.45** Эксперт
**12.15** Кінаклуб. «Ціхі хаос»
**12.25** **«Ціхі хаос»**, маст. фільм
**14.15** ПраСвет
**14.50** «Остров Крым. Deja vu», дак. фільм
**15.25** «Песні вайны», дак. фільм
**16.15** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**17.05** **«Час гонару»**, тэлесерыял
**17.55** Мова нанова. «Рэклама»
**18.10** Беларусы ў Польшчы
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Людскія справы
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Dэвайс
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21.50** Асабісты капітал
**22.10** Зоры не спяць
**22.40** Кінаклуб. «Ціхі хаос»
**22.50** **«Ціхі хаос»**, маст. фільм
**00.40** Студыя «Белсат»

## АЎТОРАК, 17 сакавіка



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.10** Мелодрама **«Любовь приходит не одна»** (Россия).
**11.00** 90 секунд.
**11.05** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 1 я серия.
**12.00** Новости.
**12.10** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** День в большом городе.
**14.00** Комедийный сериал **«Чудо»** (Украина).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** «Зона Х».
**20.00** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 2 я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Специальный репортаж.
**22.05** Военная драма **«Семнадцать мгновений весны»** СССР . 1-я серия.
**23.30** «Зона Х».
**23.50** Сфера интересов.
**00.10** Новости.
**00.25** День спорта.
**00.40** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.10** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Многосерийный фильм **«Долгий путь домой».**
**23.00** **«Ангел или демон»**. Многосерийный фильм.
**00.00** «Вечерний Ургант».
**00.35** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»** (Россия).
**10.15** «Fitnews».
**10.50** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**12.40** Анимационный сериал **«Пингвины из Мадагаскара»** (США).
**13.40** Кипяток.
**14.00** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**15.05** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** США.
**15.35** «Comedy woman».
**16.40** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»**
**17.50** **«Виртуозы»**
**18.50** **«Интерны»**
**20.20** **«Как я встретил вашу маму»** США.
**20.50** Мозговой штурм.
**21.25**Спортлото6 из 49.
**21.30** КЕНО.
**21.35** **«Кости»** (США).
**22.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1\8 финала. Ответный матч.
**00.40** Телебарометр.
**00.45** **«Всемогущие Джонсоны»** (Новая Зеландия).
**01.30** Выше крыши.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Телохранитель»**. США, 1992г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Центральный регион».
**14.20** «Наше дело».
**14.30** «Минск и минчане».
**15.00** «На 10 лет моложе».
**15.35** «Пища богов».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Вовочка 2»**. Комедийный сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Разыскивается враг государства». 1-я часть.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** **«Дело для двоих»**. Сериал.
**22.05** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Автопанорама».
**23.20** «Кино»: **«Беглецы»**. Франция, 1986г.
**00.50** **«Нина»**. Сериал.



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Людскія справы. Вайна побач з намі
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.20** Асабісты капітал
**10.40** Зоры не спяць
**11.15** **«Дом»**, серыял
**12.50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**13.00** Студыя «Белсат»
**13.30** Людскія справы
**14.00** Студыя «Белсат»
**16.20** Асабісты капітал
**16.45** Эксперт
**17.10** **«Час гонару»**, тэлесерыял
**18.00** Відзьмо-невідзьмо
**18.30** Студыя «Белсат»
**19.00** Рэпартэр
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Сальда
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21.50** Два на два
**22.20** «Мярлінская малітва», рэпартаж, 2015 г., Беларусь
**22.40** «Песні вайны», дак. фільм
**23.30** Студыя «Белсат»

## СЕРАДА, 18 сакавіка



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.15** **«Семнадцать мгновений весны»** СССР . 1-я серия.
**10.50** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 2 я серия.
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Новости.
**12.10** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** День в большом городе.
**14.00** Комедийный сериал **«Чудо»** (Украина).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** «Зона Х».
**20.00** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 3 я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**22.05** Военная драма **«Семнадцать мгновений весны»** СССР . 2-я серия.
**23.35** «Зона Х».
**23.55** Сфера интересов.
**00.10** Новости.
**00.30** День спорта.
**00.45** **«Золотой капкан»** (Россия).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.10** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Многосерийный фильм **«Долгий путь домой».**
**23.00** **«Ангел или демон»**.
**00.00** «Первый шаг в бездну».
**01.00** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»** (Россия).
**10.10** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**11.05** Мелодрама **«Материнский инстинкт»** (Россия).
**12.50** Анимационный сериал **«Пингвины из Мадагаскара»** (США).
**13.45** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**15.15** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**15.45** Репортер.
**16.35** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»** (Россия).
**17.50** Авантюрно-комедийный сериал **«Виртуозы»** **(**Великобритания)
**18.50** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**20.20** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** США.
**20.50** Мозговой штурм.
**21.25** Спортлото 5 из 36
**21.30** КЕНО.
**21.35** **«Кости»** (США).
**22.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1\8 финала. Ответный матч.
**00.40** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. 1\8 финала. Обзор.
**01.10** Телебарометр.
**01.15** Комедийное фэнтези **«Всемогущие Джонсоны»** (Новая Зеландия).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро».
**08.30** «Кино»: **«Беглецы»**. Франция, 1986г.
**10.10** «Дорогая передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Нина».** Сериал.
**15.35** «Пища богов».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Вовочка 2»**. Комедийный сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Разыскивается враг государства». 2-я часть.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** **«Дело для двоих»**. Сериал.
**22.05** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Горячий лед».
**23.20** «Кино»: **«Сначала любовь, потом свадьба»**. США
**00.55** «Секретные территории».



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Рэпартэр
**07.55** Студыя «Белсат»
**10.15** Два на два
**10.45** «Мярлінская малітва», рэпартаж
**11.05** «Cinema Komunisto», дак. фільм
**12.00** Беларусы ў Польшчы
**12.15**Кулінарныя падарожжы Р.Макловіча
**12.40** Студыя «Белсат»
**13.10** Рэпартэр
**13.40** Студыя «Белсат»
**16.00** Два на два
**16.35**«CinemaKomunisto», дак. фільм
**17.30** Эксперт
**17.55** Зоры не спяць
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Асабісты капітал
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Сальда
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова
**21.50** Маю права
**22.10** Чорным па белым
**22.35** Людскія справы
**23.10** Эксперт
**23.35** «Закладнікі Данбасу», рэпартаж
**00.00** Студыя «Белсат»

## ЧАЦВЕР, 19 сакавіка



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**08.50** Слово Митрополита Тадеуша Кондрусевича на День Святого Иосифа, обручника Девы Марии.
**09.00** Новости.
**09.10** Военная драма **«Семнадцать мгновений весны»** СССР . 2-я серия.
**10.50** **«Гетеры майора Соколова»**. 3 я серия.
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Новости.
**12.10** **«Семейные мелодрамы-2»**
**13.00** 90 секунд.
**13.05** День в большом городе.
**14.00** **«Чудо»**
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.35** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**17.35** Белорусское времечко.
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** Сфера интересов.
**19.40** «Зона Х».
**20.00** **«Гетеры майора Соколова»**. 4 я с.
**21.00** Панорама.
**21.45** Специальный репортаж.
**22.05** **«Семнадцать мгновений весны»**.3-я серия.
**23.30** «Зона Х».
**23.50** Сфера интересов.
**00.05** Новости.
**00.25** День спорта.
**00.35** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10**«МужскоеЖенское».
**14.10** «Наедине со всеми».
**15.10** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15**«Время покажет».
**16.50** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** Сериал **«Папины дочки»**.
**18.50** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Долгий путь домой»**.
**23.00** **«Ангел или демон»**.
**00.00** «Вечерний Ургант».
**00.35** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»** (Россия).
**10.05** Белорусская кухня.
**10.40** Детективный сериал **«Кости»** (США).
**11.35** «Разрушители мифов».
**12.40** Икра.
**13.15** Вот это да!
**13.50** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**15.20** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**15.55** Биатлон. Этап Кубка мира. Спринт. Мужчины.
**17.35** Хочу в телевизор!
**17.40** **«Виртуозы»** (Великобритания)
**18.40** Комедийный сериал **«Интерны»**
**20.10**«Как я встретил вашу маму» США.
**20.50** Телебарометр.
**20.55** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1\8 финала. Ответный матч. В перерыве:
**21.45** «Спортлото 6 из 49».
**21.50** «КЕНО».
**23.00** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1\8 финала. Ответный матч.
**01.00** Перезагрузка.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Сначала любовь, потом свадьба»**. США, 2011г.
**10.10** «Добро пожаловаться».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Полнолуние»**. Сериал.
**15.35** «Пища богов».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Вовочка 2»**. Комедийный сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** «Разыскивается враг государства». 3-я часть.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** **«Дело для двоих»**. Сериал.
**22.05** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Автопанорама».
**23.20** «Кино»: **«Маленький большой солдат»**. Китай - Гонконг, 2010г.
**00.55** «Тайны мира с Анной Чапман».



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Асабісты капітал
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.20** Маю права
**10.40** Чорным па белым
**11.05** Людскія справы. Вайна побач з намі
**11.35** «Песні вайны», дак. фільм
**12.30** Студыя «Белсат»
**13.00** Асабісты капітал
**13.20** Гісторыя пад знакам Пагоні
**13.30** Студыя «Белсат»
**15.50** Маю права
**16.10** Чорным па белым
**16.40** Людскія справы. Вайна побач з намі
**17.10** «Песні вайны», дак. фільм
**18.05** «Мярлінская малітва», рэпартаж
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Два на два
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Сальда
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21.50** Рэпартэр
**22.15** Відзьмо-невідзьмо
**22.45** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм
**00.05** Студыя «Белсат»

## ПЯТНІЦА, 20 сакавіка



**06.00** Доброе утро, Беларусь!
**07.00** Новости.
**07.05** Новости экономики.
**07.10** Зона Х.
**07.20** Доброе утро, Беларусь!
**08.00** Новости.
**08.05** Новости экономики.
**08.10** Зона Х.
**08.15** Доброе утро, Беларусь!
**09.00** Новости.
**09.15** Военная драма **«Семнадцать мгновений весны»** СССР . 3-я серия.
**10.50** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 4 я серия.
**11.00** 90 секунд.
**12.00** Новости.
**12.10** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**13.00** 90 секунд.
**13.05** День в большом городе.
**14.00** Комедийный сериал **«Чудо»** (Украина).
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.25** Приключенческий боевик **«Золотой капкан»** (Россия).
**16.00** 90 секунд.
**16.30** Сериал **«Семейные мелодрамы-2»** (Украина).
**17.25** «Terra incognita».
**17.55** Наши.
**18.10** «Большой репортаж».
**18.40** Новости региона.
**19.00** Новости.
**19.20** «Зона Х».
**19.55** Военно-приключенческий сериал **«Гетеры майора Соколова»** (Россия). 5 я серия.
**21.00** Панорама.
**21.45** Наши.
**21.55** Авантюрная мелодрама **«Зимнее танго»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**01.10** Новости.
**01.30** День спорта.
**01.45** **«Золотой капкан»** (Россия).



**06.00**, **08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** «Жить здорово!».
**10.25** «Контрольная закупка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Фазенда».
**11.50** «Модный приговор».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Мужское/Женское».
**14.05** «Учиться жить»
**14.35** «Время покажет».
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** Кино в цвете. **«Веселые ребята»**.
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня. Беларусь».
**18.55** **«Поле чудес»**.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Клуб Веселых и Находчивых».
**23.05** «Что? Где? Когда? В Беларуси».
**00.25** «Вечерний Ургант».
**01.15** Ночные новости.



**07.00** Телеутро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** Детективный сериал **«Сыщик без лицензии»** (Россия).
**10.15** Копейка в копейку.
**10.50** Фантастическо-приключенческий сериал **«Баффи – истребительница вампиров»** (США).
**13.15** Я хочу это увидеть!
**13.50** Комедийный сериал **«Интерны»** (Россия).
**15.20** Молодежный сериал **«Как я встретил вашу маму»** (США).
**15.55** Биатлон. Этап Кубка мира. Спринт. Женщины.
**17.50** Авантюрно-комедийный сериал **«Виртуозы»** Великобритания
**19.00** Научно-фантастический триллер **«Чужой 4: Воскрешение»** США.
**21.00** КЕНО.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** Реалити-шоу «Хочу в телевизор».
**21.55** «Экстрасенсы ведут расследование».
**23.05** Репортер.
**23.50** Спортивная комедия **«Рики Бобби: Король дороги»** (США).



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. Студия хорошего настроения».
**08.30** «Кино»: **«Маленький большой солдат»**. Китай - Гонконг, 2010г.
**10.15** «Дорогая передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Званый ужин».
**11.35** «Семейные драмы».
**12.30** «Не ври мне!».
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Полнолуние»**. Сериал. **15.40** «Пища богов».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Вовочка 3»**. Комедийный сериал.
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.35** «Такова судьба».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Кино»: **«Пять моих бывших подружек»**. Великобритания, 2009г.
**22.00** «Смотреть всем!».
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Территория заблуждений с Игорем Прокопенко».
**00.25** «Большая игра». Покер-дуэль.
**01.10** «Кино»: **«Мальчишник в Вегасе»**.



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Два на два
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.15** Рэпартэр
**10.45** Відзьмо-невідзьмо
**11.10** «Палігон», дак. фільм
**11.55** «Закладнікі Данбасу», рэпартаж
**12.25** Студыя «Белсат»
**12.50** Два на два
**13.20** Студыя «Белсат»
**15.45** Рэпартэр
**16.10** Відзьмо-невідзьмо
**16.35** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў», дак. фільм
**18.00** Чорным па белым
**18.30** Студыя «Белсат»
**18.55** Маю права
**19.15** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19.30** Навіны
**19.35** Свет
**19.50** Агляд падзеяў культуры
**20.00** Навіны
**20.10** Агляд медыяў
**20.15** Гарачы каментар
**20.30** Навіны
**20.35** Гарачы каментар
**20.50** Дэвайс
**21.00** Аб'ектыў
**21.25** Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай
**21.50** ПраСвет
**22.25** «Пацалунак Пуціна», дак. фільм
**23.25** **«Дом»**, серыял
**01.10** Студыя «Белсат»

## СУБОТА, 21 сакавіка



**05.35** Існасць.
**06.05** Авантюрная мелодрама **«Зимнее танго»** (Россия). 1-я и 2-я серии.
**09.00** Новости.
**09.10** Клуб редакторов.
**09.50** Кулинарная дипломатия.
**10.20** Лирическая комедия **«Как выйти замуж за миллионера»** (Россия). 1 я серия.
**11.25** «О еде!»
**12.00** Новости.
**12.10** Истории ремонта.
**12.45** «Здоровье».
**13.25** БеларусьLIFE.
**13.50** «Большая разница».
**15.00** Новости.
**15.15** Новости региона.
**15.35** Мелодрама **«Самая Красивая»** (Россия). 1-я - 4-я серии.
**19.00** «Я могу!»
**21.00** Панорама.
**21.40** «Я могу!»
**21.50** Мелодрама **«Танцуй...»** (Россия).
**23.40** Лирическая комедия **«Как выйти замуж за миллионера»**.1с.
**00.35** День спорта.
**00.45** «Большая разница».



**07.00** «Субботнее утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** **«Смешарики. Новые приключения».**
**09.25** «Здоровье».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Идеальный ремонт».
**12.05** «Умницы и умники».
**12.50** Премьера. «Любовь Орлова. Шипы и розы».
**13.50** Фильм **«Тайны дворцовых переворотов. Завещание императора».**
**15.20** «Рассмеши комика».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Обратный отсчет». «Озаричи. Жертвы «Эскулапа».
**16.50** «100 миллионов».
**17.45** «Я пою!».
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Сегодня вечером»
**23.05** Фильм **«Дом Хэмингуэй»**.
**00.45** «Легенды Live». «Nautilus Pompilius».



**07.05** Музыкальная комедия **«Собака на сене»** (СССР). 1 я и 2-я серии.
**09.20** Белорусская кухня.
**09.55** Телебарометр.
**10.00** Приключенческий мультсериал **«Клуб Винкс. Школа волшебниц»** (Италия).
**10.50** Научное шоу профессора Открывашкина.
**11.25** Анимационный сериал **«Пингвины из Мадагаскара»** (США).
**12.25** Биатлон. Этап Кубка мира. Гонка преследования. Мужчины.
**13.20** Копейка в копейку.
**13.55** Вот это да!
**14.40** «Экстрасенсы ведут расследование».
**15.55** Биатлон. Этап Кубка мира. Гонка преследования. Женщины.
**16.50** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Видеожурнал.
**17.20** Икра.
**17.55** Комедийная мелодрама **«Любовь зла»** (США-Германия).
**19.55** «Comedy woman».
**21.00** Спортлото 6 из 49.
**21.05** КЕНО.
**21.15** Телебарометр.
**21.30** Фильм-катастрофа «Послезавтра» (США).
**23.40** «Разрушители мифов».
**00.50** «Хали-гали».



**06.05** «Кино»: **«Пять моих бывших подружек»**. Великобритания, 2009г.
**07.30** «Анфас».
**07.45** «Тайны мира с Анной Чапман».
**08.40** «Приключения дилетанта».
**09.10** «Умнее не придумаешь с Михаилом Марфиным».
**10.00** «Острова везения: что ищет Беларусь в Индонезии».
**11.15** «Минск и минчане».
**11.45** «Кино»: **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: король шантажа»**. СССР, 1980г.
**13.00** «Кино»: Василий Ливанов и Виталий Соломин в фильме **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: смертельная схватка»**. СССР, 1980г. (Начало).
**13.30** «24 часа».
**13.00** «Кино»: Василий Ливанов и Виталий Соломин в фильме **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: смертельная схватка»**. СССР, 1980г. (Продолжение).
**14.30** «Тайна вредного мира».
**16.30** «24 часа».
**16.45** «Наше дело».
**17.00** «Большой город».
**17.40** Концерт Михаила Задорнова.
**18.20** «На том же месте в тот же час».
**19.30** «24 часа».
**20.00** «СТВ-спорт».
**20.10** «Кино»: **«Сфера»**. США, 1998г.
**22.35** «Звездный ринг. Битва кавер-бэндов».
**23.50** «Кино»: **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: король шантажа»**. СССР, 1980г.
**01.00** «Кино»: Василий Ливанов и Виталий Соломин в фильме **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: смертельная схватка»**. СССР, 1980г.



**07.00** Студыя «Белсат»
**07.25** Маю права
**07.45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**08.00** Студыя «Белсат»
**10.20** ПраСвет
**10.55** Казкі для дзетак
**11.40**«У сэрцы пракаветнай пушчы», дак. серыял
**12.10** Два на два
**12.45** Асабісты капітал
**13.05** Моўнік
**13.15** Рамантычны канцэрт
**13.40** «Лёс адной сям'і – гісторыя трох народаў»
**15.00** **«Дом»**, серыял
**16.50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**17.00** Рэпартэр
**17.25** Над Нёмнам
**17.45** Зона «Свабоды»
**18.20** **«Час гонару. Паўстанне»**,
**19.10** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**19.55** Мова нанова. «Адукацыя»
**20.15** «Небяспечны архіў.Рэабілітацыя», дак. фільм
**21.00** Студыя «Белсат»
**21.10** Форум
**21.50** «Затока»
**23.25**Відзьмоневідзьмо
**23.50** Зоры не спяць
**00.20** Студыя «Белсат»
**00.35** ПраСвет

## НЯДЗЕЛЯ, 22 сакавіка



**06.35** **«Экипаж»**. 1 я и 2-я серии.
**09.00** Новости.
**09.10** «Арсенал».
**09.40** XXL WOMAN TV.
**10.15** **«Как выйти замуж за миллионера»**. 2 я сер.
**11.20** «О еде!»
**12.00** Новости.
**12.10** Новости. Центральный регион.
**12.35** «Зона Х».
**13.05** Тайны следствия.
**13.35** Коробка передач.
**14.15** «Terra incognita».
**14.45** Наши.
**15.00** Новости.
**15.15** Твой город.
**15.30** Вокруг планеты.
**16.15** «Большой репортаж».
**16.45** Выход есть.
**17.20** **«Нахалка»**. 1-я - 4-я серии.
**21.00** Главный эфир.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Мелодрама **«Мечтать не вредно»** (Россия).
**00.05** **«Как выйти замуж за миллионера»** .2 с.



**07.00** «Воскресное утро».
**08.00**, **09.00** Наши новости.
**09.05** Воскресная проповедь (с субтитрами).
**09.20** **«Смешарики. ПИН-код».**
**09.35** «Непутевые заметки»
**09.55** «Пока все дома».
**10.45** «Фазенда».
**11.20** **Ералаш.**
**11.30** «Брэйн-ринг».
**12.40** «Вся моя жизнь - сплошная ошибка».
**13.40** «Голос. Дети».
**16.00** Наши новости.
**16.15** Новости спорта.
**16.20** «Первая мировая.«Разведчики и шпионы».
**17.10** «Точь-в-точь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Дыхание планеты».
**21.35** Фильм **«Качели»**.
**23.15** «Идеальное свидание».
**00.10** Фильм **«Скудда-у! Скудда-эй».**



**07.05** Спортивная комедия **«Рики Бобби: Король дороги»** (США).
**08.50** Выше крыши.
**09.30** Анимационный сериал **«Пингвины из Мадагаскара»**



**10.25** «Fitnews».
**11.15** Телебарометр.
**11.20** Ваше лото.
**11.50** Лотерея «Пятерочка».
**12.00** Хочу в телевизор!
**12.10** Биатлон. Этап Кубка мира. Масстарт. Мужчины.
**13.05** Я хочу это увидеть!
**13.35** «Понять и обезвредить».
**14.10** Биатлон. Этап Кубка мира. Масстарт. Женщины.
**15.05** Комедийный сериал **«Ландыш серебристый»** (Россия).
**16.45** Научно-фантастический триллер **«Чужой 4: Воскрешение»** США.
**19.15** Суперлото.
**20.05** Кипяток.
**20.25** Телебарометр.
**21.00** Спортлото 5 из 36.
**21.05** КЕНО.
**21.30** Комедийная мелодрама **«Любовь зла»** (США).
**23.30** «Перезагрузка».
**00.15** Футбол. Лига Европы УЕФА. 1\8 финала. Обзор.
**01.10** «Хали-гали».



**06.00** **«Студенты International».** Сериал.
**07.10** «Добро пожаловаться».
**07.30** Тележурнал «Автопанорама».
**07.55** «Кино»: **«Сфера»**. США, 1998г.
**10.15** «Чистая работа».
**11.00** «Большой завтрак»
**11.40** «На 10 лет моложе».
**12.10** «Кино»: Василий Ливанов и Виталий Соломин в фильме **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: охота на тигра»**. СССР
**13.30** «24 часа».
**13.40** «Здравствуйте, доктор».
**14.15** «Территория заблуждений с Игорем Прокопенко».
**16.00** «Центральный регион».
**16.30** «24 часа».
**16.50** Тележурнал «Автопанорама».
**17.20** «Военная тайна с Игорем Прокопенко».
**19.30** «Неделя».
**20.40** «Кино»: **«Интервью с вампиром»**. США, 1994г.
**22.55** «Тайна вредного мира».
**00.40** «Кино»: Василий Ливанов и Виталий Соломин в фильме **«Приключения Шерлока Холмса и доктора Ватсона: охота на тигра»**. СССР, 1980г.

БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат»
**07.10** ПраСвет
**07.45** Казкі для дзетак
**08.15** Зона «Свабоды»
**08.50** «Небяспечны архіў. Рэабілітацыя», дак. фільм
**09.30** Над Нёмнам
**09.50** Два на два
**10.20** Рэпартэр
**10.45** Казкі для дзетак
**11.30** **«Тры шалёныя нулі»**, тэлесерыял
**12.00** Мова нанова. «Адукацыя»
**12.15** Чорным па белым
**12.40** ПраСвет
**13.20** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**, серыял
**14.10** Відзьмо-невідзьмо
**14.35** «Пацалунак Пуціна», дак. фільм
**15.35** **«Чужое шчасце»**, маст. фільм
**17.05** «Падарожжа на Далёкі Усход. з Берліну ў Токіа», дак. серыял. ч. 1. «Праз Турцыю ў Іран», 2014 г., Нямеччына
**18.00** Форум
**18.40** **«Час гонару. Паўстанне»**
**19.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20.05** Эксперт
**20.30** «Дзяўчына з Поўдня»
**21.25** Кінаклуб. «Наркагандаль»
**21.35** **«Наркагандаль»**, маст. фільм,
**23.55** «Закладнікі Данбасу»,рэпартаж
**00.25** **«Mad Men. Утрапёныя IV»**

**На працягу тыдня ў праграме магчымыя змены. Перадрук тэлепраграмы забаронены!**

■ Аляксандра Антановіч

# Калі ўрад перастане ўтрымоўваць стратныя прадпрыемствы?

## Чаму Беларусь баіцца структурных рэформаў?

**Урад не супраць структурных рэформаў у эканоміцы, на якіх настойвае Міжнародны валютны фонд, але асцерагаецца страты прамога кантролю над фінансавымі струменямі і сацыяльнага выбуху з непрадказальнымі наступствамі, лічаць эксперты «Заўтра тваёй краіны».**

Міжнародны валютны фонд (МВФ) гатовы працаваць над новай праграмай для Беларусі пры ўмове, што беларускія ўлады адважацца на рашучыя структурныя рэформы ў эканоміцы.

Сярод неабходных змен, у тым ліку, рэформа рэальнага сектара, рэалізацыя праграмы прыватызацыі, змена крэдытнай палітыкі, неабходнасць падвышэння тарыфаў на паслугі ЖКГ.

*— МВФ не прапануе рэформы. Ён павінен бачыць праграму рэформаў, якія пачнуць рэалізоўваць беларускія ўлады,* — тлумачыць эканаміст **Аляксандр Чубрык.** – *Структурныя рэформы — гэта змены, накіраваныя на падвышэнне ролі прыватнага сектара, і змена прынцыпаў кіравання дзяржаўным сектарам. Гэта меры, якія дазволяць краіне ў доўгатэрміновай перспектыве выйсці з цяперашняга стану стагнацыі і перайсці ў стан больш устойлівага росту.*

Па адзнацы **Аляксандра Аўтушка-Сікорскага,** аналітыка Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS), які рэалізуе праект «Рэфорум» у падтрымку Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі, у прадстаўнікоў улад ёсць разуменне неабходнасці правядзення ў краіне структурных рэформаў. Аднак не варта разлічваць, што яны адбудуцца па хуткім часе.

### Дзяржпрадпрыемствы – гэта «чорная дзюра»

У беларускага ўрада асаблівыя асцярогі выклікае рэформа дзяржпадтрымкі і крэдытавання па дзяржаўных праграмах, лічыць эканаміст **Дзітрый Крук.**

*— Па сутнасці, гэта змена сістэмы размеркавання рэсурсаў у эканоміцы. На мой погляд, гэта найболей важны пункт, які можа ў цэлым змяніць логіку і механізм функцыянавання беларускай эканомікі,* — падкрэслівае эксперт.

Сістэма размеркавання рэсурсаў з'яўляецца краевугольным каменем сучаснай беларускай эканамічнай мадэлі. МВФ прапануе, каб дзяржава не ўплывала на палітыку банкаў, і, адпаведна, каб беларускія банкі, у першую чаргу, «Беларусбанк», «Белаграпрамбанк», «Банк развіцця Рэспублікі Беларусь» не кіраваліся настойлівымі парадамі і прамымі распараджэннямі ўрада пры выбары пазычальнікаў, не падавалі рэсурсы на льготнай аснове.

*— Існая ў Беларусі структура эканомікі засноўваецца на тым, што дзяржпрадпрыемства — гэта свайго роду «чорная дзюра», якая адцягвае рэсурсы ў больш эфектыўных прыватныхпрадпрыемстваў,* — тлумачыць Аляксандр Чубрык. – *Усярэдзіне групы дзяржпрадпрыемстваў меней эфектыўныя ўскосна субсідуюцца больш паспяховымі.*



На гэта зважалі спецыялісты Сусветнага банка ў 2012 годзе ў краінавым эканамічным мемарандуме. Усе стабілізацыйныя спробы Нацбанка ў значнай ступені ўпіраюцца ў неабходнасць змены існай сістэмы падтрымкі дзяржпрадпрыемстваў.

*— У доўгатэрміновай перспектыве самастойнасць банкаў у прыняцці рашэнняў – вялікі плюс, але гэта можа прывесці і да досыць адчувальнага шоку для беларускай эканомікі,* — лічыць Дзмітрый Крук. – *Існая ў Беларусі сістэма размеркавання рэсурсаў падтрымлівае на плаву прадпрыемствы, якія ў звычайных умовах павінны былі б або рэфармавацца, або зачыніцца.*

Што да прыватызацыі буйных прадпрыемстваў, то істотных імгненных змен у эканоміцы яна, па меркаванні эксперта, не выкліча.

*— Гэта ў нейкай меры сімвалічны крок, таму што ў нас часта топ-службоўцы, у тым ліку і прэзідэнт, кажуць пра тое, што масавая прыватызацыя не з'яўляецца выбарам Беларусі,* — кажа Дзмітрый Крук. – *Маўляў, мы паказалі, што дзяржуласнасць можа працаваць эфектыўна.*

Да таго ж тэма прыватызацыі ў цяперашняй сітуацыі не вельмі актуальная.

*— На жаль, момант у значнай ступені выпушчаны,* — лічыць Аляксандр Чубрык. — *На актывы большасці беларускіх дзяржпрадпрыемстваў цяпер няма вялікага попыту. Гаворка ідзе хутчэй пра тое, якім чынам рэструктурыраваць прадпрыемствы і як прыватызацыя ўсё гэта дапоўніць.*

### Дакладныя крокі па стратэгічна няслушным шляху

У беларускіх улад таксама выклікае асцярогі масавае беспрацоўе. Магчымае банкруцтва некаторых прадпрыемстваў можа спарадзіць яе рост, істотна адбіцца на прыбытках насельніцтва ў цэлым і выклікаць сацыяльны шок. Вось чаму прапановы аб рэформе рэальнага сектара сустракаюць адпор на дзяржпрадпрыемствах.

Урад даволі разнастайны, і ў ім ёсць людзі, якія выступаюць за структурныя рэформы ў эканоміцы, але кожнае ведамства дзейнічае ў рамках сваёй кампетэнцыі, лічыць эканаміст Аляксандр Чубрык.

*— Калі на Міністэрства фінансаў ускладаецца задача па забеспячэнні бесперабойнага фінансавання ключавых выдаткаў і адсутнасці праблем з пагашэннем запазычанасці, яго прыярытэты ў тым, каб не было разбалансаванасці,* — тлумачыць эксперт. — *Калі на Мінэканомікі ўскладаецца задача забеспячэння росту, то яно ў гэтым кірунку і працуе. Але галіновыя міністэрствы, канцэрны і дзяржпрадпрыемствы, верагодна, зацікаўлены ў тым, каб захаваць існую сістэму, да якой яны за доўгія гады працы прыстасаваліся.*

У апошнія два гады Мінэканомікі зрабіла некалькі спроб абмежаваць дзяржпраграмы па маштабах.

*— Але пакуль гаворка ідзе пра рэгуляванне маштабаў дзяржпадтрымкі,* — адзначае Дзмітрый Крук. — *Прадстаўнік Сусветнага банка каля паўгода назад на канферэнцыі «Кастрычніцкага эканамічнага форуму» (KEF) заявіў, што калі дзяржпраграмы абмяжоўваюцца ў аб'ёмах, але прынцыпова ад іх не адмаўляюцца, гэта дакладныя крокі па стратэгічна няслушным шляху.*

Па меркаванні незалежных экспертаў, фінансавае становішча большасці дзяржпрадпрыемстваў далёка ад здавальняючага.

*— Па ўзроўні прадукцыйнасці большасць дзяржпрадпрыемстваў адчувальна прайгравае прыватным,* — сцвярджае Дзмітрый Крук.

З гэтага агульнага правіла могуць быць выключэнні, напрыклад, «Беларуськалій».

*— Пры любой форме ўласнасці ён будзе эфектыўным прадпрыемствам, але ў большасці выпадкаў прадпрыемствы, калі іх адключыць ад танных крэдытаў, іншых формаў дзяржаўнай дапамогі, стануць перад праблемай фінансавай бездапаможнасці,* — лічыць эксперт.

Нельга не ўлічваць і чалавечы фактар, які ва ўсім свеце з'яўляецца сур'ёзнай перашкодай для ўсякіх змен.

Але калі казаць пра Беларусь, то пытанне складаецца ў тым, ці можна закансерваваць існую сітуацыю, адзначае Аляксандр Чубрык.

*— Калі кансервацыя сітуацыі магчымая, працідзеянне рэформам будзе паспяховым. Калі немагчымая, той урад змушана будзе ісці на рэформы, таму што сітуацыя падштурхоўвае да гэтага* — такі прагноз эканаміста.

Цяпер Беларусь проста выпускае час, лічаць эксперты. Праблемы будуць незалежна ад таго, пойдзе краіна на структурныя рэформы, якія падтрымае МВФ, ці не.

*— Але калі структурна рэфармаваць эканоміку, гэта значыць шанец, што праз год-другі сітуацыя ў значнай ступені нармалізуецца і шматлікія праблемы, у тым ліку і сацыяльныя, будуць вырашаны ўжо дзякуючы не дзяржаўнай патэрналісцкай палітыцы, а ўзрослай эфектыўнасці рынку,* — падкрэслівае Аляксандр Чубрык.

# Мінгандлю абавяжа фатографаў зарэгістравацца ў рэестры

**З 1 чэрвеня 2015 года забараняецца аказваць бытавыя паслугі суб'ектам, не ўключаным у рэестр бытавых паслуг.**

Згодна з пастановай Савету міністраў, усе суб'екты, што аказваюць у Беларусі бытавыя паслугі, мусяць быць занесеныя ў адмысловы рэестр. Крайні тэрмін рэгістрацыі — 1 чэрвеня 2015 года, пасля гэтага аказваць бытавыя паслугі будзе забаронена. Падрабязна пра рэестр распавядаецца на сайце Мінгандля.



У сацыяльных сетках звярнулі ўвагу на тое, што ў рэестр мусяць быць занесеныя і фатографы.

Тое гучыць дзіўна ў 2015 годзе, калі хіба не кожны мае калі не фотаздымач, то прынамсі смартфон з камерай.

«Наша Ніва» ўдакладніла парадак рэгістрацыі ў Міністэрстве гандля. Насамрэч, фатографы, у тым ліку індывідуальныя прадпрымальнікі і фатографы-фрылансеры, мусяць прайсці рэгістрацыю, калі аказваюць бытавыя фотапаслугі. Фотапаслугамі лічыцца і здымка мерапрыемстваў (напрыклад, вяселляў), і апрацоўка фота (напрыклад, рэтуш).

Пастанова не тычыцца людзей з фотаздымачамі, якія здымаюць не ў камерцыйных мэтах.

З тэксту пастановы бачна, што дакумент не тычыцца СМІ, але фатографы, якія працуюць у СМІ, абавязаныя рэгістравацца ў згаданым рэестры, калі аказваюць дадаткова бытавыя паслугі.

Аналагічна рэгістравацца трэба і тым, хто аказвае паслугі мыйкі вокнаў ці прыёму бялізны ў хімчыстку, але не трэба тым, хто мые вокны ці бялізну для сябе.

***Аляксандр Арсёнаў***

# МЗС: адзіная візавая прастора з Расіяй – справа не аднаго года

**Выхад Беларусі і Расіі на адзіную візавую прастору – гэта комплекснае складанае пытанне, заявіў 5 сакавіка прэс-сакратар МЗС Беларусі Дзмітрый Міронччык. Паводле яго слоў, для гэта трэба вырашыць пытанне несупадаючых візавых рэжымаў з трэцімі краінамі.**

"Перспектыва іх збліжэння - справа не аднаго дня і, магчыма, нават не аднаго года, якая патрабуе ўключэння і абавязкова зацікаўленага ўдзелу нашых замежных партнёраў", – растлумачыў афіцыйны прадстаўнік беларускага знешнепалітычнага ведамства, перадае БелТА.

Пры гэтым Дзмітрый Міронччык адзначыў, што Беларусь і Расія ўжо даўно праводзяць узгодненую візавую палітыку і "нашымі агульнымі намаганнямі ступень узгодненасці і эфектыўнасць гэтай палітыкі пастаянна павышаюцца".

З улікам таго, што візавая палітыка тычыцца не толькі віз для замежных грамадзян, збліжаючы беларускую візавую палітыку з расійскай, "мы павінны быць упэўнены, што рэжым паездак нашых грамадзян павінен у выніку не толькі не пагоршыцца, але і, што важна, мець рэальныя перспектывы паляпшэння шляхам спрашчэння візавых працэдур або поўнай адмены віз", дадаў прэс-сакратар МЗС Беларусі.

Як паведамлялі СМІ, аб увядзенні адзінай візавай прасторы Беларусі і Расіі, заявіў 3 сакавіка прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін. пасля перамоваў з Аляксандрам Лукашэнкам.



